**СОНЦА:**
Усход, захад, даўжыня дня:
Мінск — 6.24, 19.52, 13.28;
Віцебск — 6.12, 19.44, 13.32;
Магілёў — 6.13, 19.42, 13.29;
Гомель — 6.14, 19.34, 13.20;
Гродна — 6.41, 20.05, 13.24;
Брэст — 6.42, 20.05, 13.23.

**МЕСЯЦ:**
Першая квадра 4 верасня.

**ІМЯНІНЫ:**
Лупы.



# ЗВЯЗДА

5 ВЕРАСНЯ 1992 г.
СУБОТА, № 179 (21957)



● выдаецца са жніўня 1917 г. ● БЕЛАРУСКАЯ ГАЗЕТА ● цана 1 рубель


## РОЗГАЛАС

### КВАТЭРА ДЛЯ ДЫПЛАМАТА

Старшыня Савета Міністраў Рэспублікі Беларусь В. Кебіч з удзелам адказных работнікаў урада, міністэрстваў і ведамстваў правёў спецыяльную нараду па пытаннях, звязаных з размяшчэннем у сталіцы рэспублікі г. Мінску замежных пасольстваў і прадстаўніцтваў. В. Кебіч адзначыў, што гэта работа вядзецца крайне нездавальняюча. Адчуваецца катастрафічная няхватка памяшканняў для жылля і работы замежных дыпламатаў. У той жа час памяшканні, якія належаць ведамствам і прадпрыемствам і з'яўляюцца, па сутнасці, дзяржаўнай уласнасцю, выкарыстоўваюцца часта ў камерцыйных інтарэсах асобных людзей і арганізацый.

Прэм'ер-міністр даручыў правесці шырокую праверку мэтазгоднага выкарыстання службовых памяшканняў і падрыхтаваць адпаведную пастанову ўрада. Намечаны іншыя канкрэтныя меры па неадкладнаму ўладкаванню замежных пасольстваў і прадстаўніцтваў. У нарадзе прынялі ўдзел міністры: фінансаў — С. Янчук, МУС — В. Ягораў, замежных спраў — П. Краўчанка.

БЕЛІНФАРМ.

### СУСТРЭЧА Ў ДОМЕ ЎРАДА

Старшыня Савета Міністраў Рэспублікі Беларусь Вячаслаў Кебіч прыняў дырэктара службы знешняй разведкі Расійскай Федэрацыі Яўгена Прымакова і старшыню КДБ Беларусі Эдуарда Шыркоўскага. Выказана задавальненне ў сувязі з падпісаннем пагаднення аб супрацоўніцтве ў галіне разведвальнай дзейнасці паміж Беларуссю і Расійскай Федэрацыяй. У ходзе сустрэчы былі абмеркаваны пытанні, якія маюць узаемную цікавасць.

(БЕЛІНФАРМ).

### ПА НАВУКУ—У КІТАЙ

Дэлегацыя Акадэміі навук Беларусі наведала кітайскую Акадэмію навук. Быў падпісаны сумесны пратакол і пагадненне аб навуковым супрацоўніцтве паміж навукоўцамі абедзвюх краін. Наша дэлегацыя наведала таксама Акадэмію навук правінцыі Хекань, дзе азнаёмілася з дасягненнямі кітайскіх вучоных.

### І СКРЫНКА «МАЛЬБАРА» ЦАНОЙ У МІЛЬЁН...

Інфармацыяй да развагання завяршыўся ранішні рэйд супрацоўнікаў аддзела барацьбы з эканамічнымі злачынствамі Маскоўскага РАУС Брэста сумесна з падатковай інспекцыяй. У раёне «чэчэнскай слабодкі», як у народзе называюць вуліцу Багданчука, яны канфіскавалі 18 скрынак і 13 сумак з амерыканскімі цыгарэтамі.

Паводле самых сціплых прыкідак, кошт тавару перавышае тры мільёны рублёў. Цяпер вядзецца праверка дакументаў, і высвятляюцца тонкасці гэтай цыгарэтнай справы. Але гаспадары адчуваюць сябе пакуль што спакойна. Бо на большую частку цыгарэтных блокаў яны маюць таварна-транспартныя накладныя малога прадпрыемства «Муслім» з Чэчэна-Інгушэціі.

Згодна з тамашнім законам, чэчэнцы маюць права прадаваць цыгарэты за межамі сваёй рэспублікі. Нядрэнна было б кампетэнтным органам напомніць «гасцям», калі будзе выпадак, адну добрую прыказку: у чужы манастыр не лезь са сваім статутам.

У Беларусі продаж цыгарэт дазволены толькі дзяржгандлю і прадпрыемствам, у якіх ёсць ліцэнзія.

Іван КУКСА, (БЕЛІНФАРМ).

### «САЦЫЯЛЬНАЯ АБАРОНА»— ПАНЯЦЦЕ ШЫРОКАЕ...

**АДБЫЛАСЯ КАНФЕРЭНЦЫЯ КААРДЫНАЦЫЙНАГА КАМІТЭТА ГРАМАДСКІХ І ПАЛІТЫЧНЫХ РУХАЎ РЭСПУБЛІКІ БЕЛАРУСЬ**

Відаць, пасля непрацяглага і ціхага існавання і гэтая арганізацыя вырашыла заявіць аб сабе «на поўны голас». І, вядома ж, на плошчы Незалежнасці. Мітынг плануецца правесці 17 верасня і сабраць на яго не менш як 15 тысяч чалавек. У сувязі з гэтым старшыні Мінгарвыканкома А. Герасіменку павінна пайсці папера за подпісамі прадстаўнікоў 13 партый і старшыні каардынацыйнага камітэта С. Гайдукевіча. Шкада толькі, што журналістам не дазволілі прысутнічаць на абмеркаванні гэтага дакумента (далей сход быў закрытым). Стала зразумела, што на мітынгу камітэт хоча звярнуцца да Вярхоўнага Савета і ўрада рэспублікі з пытаннямі аб сацыяльнай абароне працоўных Рэспублікі Беларусь і пенсійным забеспячэнні ваеннаслужачых запасу, ветэранаў вайны і працы. Як адзначалася, «сацыяльная абарона» — паняцце шырокае і патрабуе тлумачэння.

«Мы лічым, што правядзенне мітынгу з'яўляецца адзіным стабілізуючым фактарам у стваральным працэсе эканамічнага і палітычнага развіцця, — было запісана ў падрыхтаваным пісьме ў гарвыканком.

Дарэчы, аб грамадскіх і палітычных партыях, якія будуць прысутнічаць 17 верасня на плошчы Незалежнасці: Фонд Рэспублікі Беларусь па сацыяльнай абароне ваеннаслужачых службы і запасу, ДСПС, Арганізацыя ветэранаў органаў МУС Рэспублікі Беларусь, Асацыяцыя пісьменнікаў-баталістаў і марыністаў, фракцыя народных дэпутатаў Рэспублікі Беларусь «Саюз», Рэспубліканская арганізацыя ветэранаў, Партыя камуністаў, Славянскі сабор «Белая Русь» і г. д.

Разглядаліся таксама пытанні аб унясенні ў Закон аб мовах у Рэспубліцы Беларусь папраўкі аб двухмоўі і адмене Закона аб спыненні дзейнасці КПБ.

Ганна ЛАГУН.

## «Нацыянальныя інтарэсы для разведкі павінны быць асноўнымі»



**Эксклюзіўнае інтэрв'ю карэспандэнту «Звязды» дырэктара службы знешняй разведкі Расійскай Федэрацыі Яўгена ПРЫМАКОВА**

**— Ці моцна змянілася расійская знешняя разведка пасля Кручкова?**

— Моцна. Першае і галоўнае адрозненне — мы дзейнічаем цяпер абсалютна аўтаномна і падпарадкоўваемся толькі Прэзідэнту Расіі. Змяніліся і акцэнты ў працы. Разведка перастала быць сродкам здзяйснення канфрантацыі з галоўным праціўнікам — ЗША. Раней, калі ўсё было максімальна ідэалагізавана, нацыянальныя інтарэсы былі на заднім плане. Цяпер яны выходзяць на першы. І менавіта разведка павінна клапаціцца аб прэстыжы і велічы сваёй краіны.

Праўда, павінен адзначыць, што разам з крушэннем камунізму нам дасталася вельмі нялёгкая спадчына — Еўропа стала канфліктнай зонай, і мы павінны пастаянна гэта мець на ўвазе. Заключанае з Беларуссю пагадненне якраз улічвае гэты момант у развіцці еўрапейскага рэгіёна.

**— Але Расія спачатку заключыла падобнае пагадненне з Казахстанам. Ці азначае гэта змяшчэнне пэўных прыярытэтаў?**

— А Беларусь выйшла з дагаворам аб супрацоўніцтве ў галіне знешняй разведкі на Украіну. Ну і што? Гэта нармальна. Казахстан для нас — сувязь з азіяцкім рэгіёнам, Беларусь — з еўрапейскім. Гаварыць, які з іх важнейшы для нас, па-мойму, немэтазгодна. Галоўнае: у нас даўнія і моцныя сувязі і адны і тыя ж прыярытэты.

**— Нядаўна ў расійскіх сродках масавай інфармацыі прайшло паведамленне, што таджыкская граніца перайшла пад юрысдыкцыю Расіі. Напэўна, вы збіраецеся кантраляваць граніцы ўсіх сярэднеазіяцкіх рэспублік?**

— Расія не зацікаўлена, каб былі адкрыты тыя граніцы, адкуль могуць паступаць наркотыкі, зброя і бандфарміраванні. Многія з рэспублік проста не ў стане ўтрымліваць сваю граніцу. Таму мы і збіраемся часова кантраляваць граніцы некаторых сярэднеазіяцкіх рэспублік. Увогуле, самастойныя граніцы хочуць мець толькі краіны Балтыі.

**— Ці азначае гэта, што ў вашай службы не будзе падобных пагадненняў з прыбалтыйскімі службамі бяспекі?**

— У нас увогуле няма ніякіх адносін з апошнімі. Больш таго, кіраўнік парламента адной з прыбалтыйскіх рэспублік заявіў, што яго краіна гатова прадаставіць месца для заходніх спецслужбаў, якія будуць працаваць супраць Расіі. Калі гэта здарыцца, то мы проста вымушаны будзем прыняць адпаведныя контрмеры.

**— «Халодная вайна» з Балтыяй пачынаецца?**

— Я не стаў бы так катэгарычна сцвярджаць. Але што зараз змяніліся пастаянныя саюзнікі і праціўнікі — адназначна. Больш таго, цяпер вельмі цяжка назваць пастаянных саюзнікаў. СНД — гэта далёка не былы Саюз, і ўсёмагутнага саюзнага КДБ няма і, упэўнены, ужо ніколі не будзе.

**— Эдуард Шыркоўскі заявіў, што беларускі КДБ гатовы заключыць пагадненні з ЦРУ, іншымі спецслужбамі заходніх краін. А як у гэтым плане Расія?**

— Мы ўжо супрацоўнічаем з заходнімі спецслужбамі ў такіх галінах, як нераспаўсюджанне зброі масавага паражэння, міжнародны тэрарызм, наркабізнес. Плануецца падпісанне пагадненняў і па іншых пытаннях, якія аб'ядноўваюць спецслужбы ўсяго свету.

А ўвогуле, падобныя пагадненні многімі службамі бяспекі не афішыруюцца, каб не пашкодзіць нацыянальным інтарэсам сваёй краіны.

Адно магу сказаць адназначна: галаўны боль у нас цяпер выклікае не толькі ЦРУ.

Напрыклад, Расію вельмі непакоіць Ірак, які ператварыўся з былога саюзніка ў патэнцыяльнага праціўніка. І тое, што ён збіраецца завалодаць ядзернай зброяй, нервуе не толькі ЗША. Падобныя намеры ёсць і ў некаторых «парогавых» краінах, якія абмінаюць кантроль МАГАТЭ і таксама мараць пра сваю ядзерную бомбу. Вядома, гэта не можа пакідаць абыякавай як Расію, так і Беларусь.

**— Цяпер усё ніяк не могуць падзяліць саюзную маёмасць. Ці шмат у вас непаразуменняў са спецслужбамі іншых рэспублік СНД па гэтаму пытанню?**

— Магу сказаць, што з Беларуссю ніякіх непаразуменняў з гэтай нагоды не ўзнікае.

Што датычыць іншых рэспублік, то, думаю, другога Чарнаморскага флоту ў нас пры падзеле маёмасці не будзе.

Гутарыў Аляксандр КОКТЫШ.

ЗАПРАШЭННЕ НА СВЯТА

### ДАРОГАМІ ДЗЯДЗЬКІ ЯКУБА

**Тых, хто даўно не быў у коласаўскіх мясцінах, яны сустрэнуць абноўленымі. Калі вы збіраецеся напярэдадні юбілею песняра прайсці сцежкамі дзядзькі Якуба, то сустрэнеце на іх драўляныя скульптуры многіх любімых герояў з «Новай зямлі», іншых твораў — і Міхала, і Антося, і маці з дзеткамі — над гэтымі мастацкімі кампазіцыямі народныя майстры Беларусі працавалі цэлыя два гады.**

Лепш за ўсё адправіцца ў падарожжа заўтра, у нядзелю, калі Коласаў родны кут будзе поўніцца людскімі галасамі, музыкай, песнямі. Тут, на ўзбярэжжы слыннага Нёмана, адбудзецца Рэспубліканскае свята паэзіі, прысвечанае 110-годдзю з дня нараджэння песняра.

Праз Акінчыцы, Альбуць, Мікалаеўшчыну, Смольню ўдзельнікі накіруюцца ва ўрочышча Бервянец, дзе і адбудзецца галоўная падзея. Тут выступяць пісьменнікі, артысты, лепшыя мастацкія калектывы Беларусі.

Сустрэча ў Акінчыцах у 10.30. Пачатак урачыстасці ў Бервянцы ў 13.30. Дабрацца да месца правядзення свята можна з Мінска наступным чынам: электрычкаю — да Стоўбцаў, адтуль аўтобусамі, якія будуць хадзіць праз 15—20 хвілін, — да самога Бервянца.

К. СЦЕПАНЮК.

### ПРЫСЯГНЁМ, СЫНЫ!

Як паведамілі з прэс-цэнтра Міністэрства абароны рэспублікі, 6 верасня 1992 года на плошчы Незалежнасці Мінска адбудзецца прывядзенне да ваеннай прысягі на вернасць дзяржаве і народу Беларусі 480 курсантаў з першага набору будучых беларускіх афіцэраў. У іх саставе — прадстаўнікі адзінаццаці нацыянальнасцей. Прысягаць прапанавана ў індывідуальным парадку. Гэты ўрачысты рытуал, відаць, стане традыцыяй Узброеных Сіл Рэспублікі.

(БЕЛІНФАРМ).

### НА ШАМАНА СПАДЗЯВАЙСЯ...

Апошнім часам Магілёў падвяргаецца сапраўднаму нашэсцю ўсялякіх чараўнікоў. Не паспявае з горада адбыць адзін, як яму на змену спяшаецца другі, яшчэ больш «круты» за папярэдніка. Ў бліжэйшыя дні, змяняючы рознага роду чараўнікоў і экстрасенсаў, на магілёўчанах будзе дэманстраваць свае здольнасці... шаман.

Усе гэтыя гастралёры не скупяцца на абяцанні. Вось і апошні з выступаўшых тут «лекараў» — Югы Матанга на поўным сур'ёзе гарантаваў зніжэнне радыяцыйнага фону ў горадзе ў дні сваіх выступленняў. Аднак, як паведамляе група радыяцыйна-экалагічнай інфармацыі Гідрамета, у гэтыя дні, як, дарэчы, і ў астатнія, узровень гама-фону ў абласным цэнтры быў на звычайным узроўні.

Гэты невялікі прыклад, відаць, многіх вымусіць больш аб'ектыўна і цвяроза ставіцца да цудадзейных візіцёраў.

Барыс МІХЕЕЎ. (БелаПАН).

### РАДЫЁ ФАКТ

**У Германію на адпачынак і аздараўленне адбыла чарговая група дзяцей з Валожынскага раёна. Увесь клопат узялі на сябе актывісты Евангелічнага Дэканата Остхофен, які ўзначальвае адзін з вядомых царкоўных і грамадскіх дзеячаў Германіі Рольф Німц.**

**Дзеці будуць адпачываць у горадзе Эйх-на-Рэйне, размешчаным у адным з самых прыгожых куткоў Германіі.**

***

Праваслаўныя Літвы застаюцца ў лоне рускай праваслаўнай царквы і не маюць патрэбы ў якой-небудзь аўтаноміі ад маскоўскага Патрыярхату. Такое рашэнне прынята на сходзе праваслаўнага духавенства, які адбыўся ў вільнюскім Свята-Духавым манастыры.

***

**У Дзяржаўным мастацкім музеі адкрылася выстаўка «Новыя імёны». Мастакі Наталля Залозная і Ігар Цішын — маладыя і таленавітыя, хоць наўрад ці іх імёны здадуцца новымі знаўцам выяўленчага мастацтва.**

**Яны ўдзельнічалі ў выстаўках у Мінску, Маскве, Германіі, Балгарыі, Паўднёвай Карэі. Некаторыя іх палотны набылі Траццякоўская галерэя, Беларускі мастацкі музей, калекцыянеры Францыі і Ізраіля.**

### «КАНСТЫТУЦЫЯ БЕЛАРУСІ НАРАДЖАЕЦЦА Ў ВЫНІКУ ВЯЛІКІХ КАМПРАМІСАЎ»

**Яна будзе адпавядаць сусветным стандартам. У гэтым запэўнілі журналістаў удзельнікі чарговай прэс-канферэнцыі ў Вярхоўным Савеце рэспублікі — члены рабочай групы па стварэнню праекта новай Канстытуцыі Беларусі, а таксама вядомыя юрысты і навукоўцы.**

З таго часу, як у снежні мінулага года быў апублікаваны першы праект, на адрас рабочай групы паступіла тры з паловай тысячы заўваг і прапаноў ад грамадзян рэспублікі наконт таго, якім жа павінен быць наш Асноўны закон (гэта без уліку пісьмаў, што ў вялікай колькасці прыходзілі ў рэдакцыі газет, на радыё і тэлебачанне). Вядома, не ўсе яны былі выкарыстаны пры нашай працы, сказаў намеснік Старшыні Вярхоўнага Савета, кіраўнік рабочай групы Васіль Шаладонаў, але гэта не азначае, што прапановы не будуць улічаны пры распрацоўцы іншых заканадаўчых актаў.

Неабходнасць прыняцця новай канстытуцыі абумоўлена многімі фактарамі: набыццё незалежнасці і карэнныя змены ў жыцці Беларусі, самастойная ўнутраная і знешняя палітыка — палітычны фактар; рынак і пераход да новых умоў гаспадарання — эканамічны. Змянілася і само дзяржаўнае ўладкаванне — мы ідзём да замацаванага падзелу функцый трох улад: заканадаўчай, выканаўчай і судовай, што з'яўляецца неабходным атрыбутам прававой дзяржавы.

Праца над Канстытуцыяй вядзецца ўжо даволі доўгі час. Спачатку, як вы памятаеце, ёй займаліся адразу дзве групы — пад кіраўніцтвам В. Шаладонава і В. Ганчара. Пасля вядомых жнівеньскіх падзей мінулага года гэтыя праекты былі аб'яднаны і далей працягвалася работа ўжо над адным. Вынік маем сёння. Станоўчае заключэнне праекту далі вядомыя беларускія вучоныя-юрысты, ён быў накіраваны таксама на экспертызу ў Савет Еўропы, яго вывучалі юрысты Злучаных Штатаў, Германіі, якія далі разгорнутыя рэцэнзіі са сваімі прапановамі-рэкамендацыямі.

Гэтая Канстытуцыя не ствараецца на пустым месцы, галоўная яе асаблівасць, як было адзначана, — пераемнасць традыцый, урокаў, законаў, якія атрымала Рэспубліка Беларусь у спадчыну ад Вялікага княства Літоўскага, Беларускай Народнай Рэспублікі, Беларускай Савецкай Сацыялістычнай Рэспублікі. У праекце з'явіліся і зусім новыя артыкулы — пра абарону і нацыянальную бяспеку, артыкул «Прэзідэнт», напрыклад. Па праекту Беларусь усё ж парламенцкая рэспубліка, аднак у нас будзе, відаць, і асобны кіраўнік дзяржавы, праўда, з абмежаванымі функцыямі: ён не зможа ўмешвацца ў дзейнасць урада, але атрымае права распускаць парламент. Галоўная ж роля прэзідэнта — выступаць надзейным гарантам вяршэнства законаў у дзяржаве.

Застаецца ў праекце і нямала пытанняў. Народны дэпутат, член Канстытуцыйнай камісіі Уладзімір Новік адзначыў, напрыклад, што недастаткова ясна, на яго думку, распрацавана пытанне аб тым, як будуць праходзіць у далейшым выбары — са стопрацэнтнай зменай кіруючых органаў адначасова, ці паэтапна: чаму колькасць членаў вышэйшага органа ўлады вызначана ў 160 чалавек, а не ў 150 ці нават 100 — чым гэта абгрунтавана? Пытанні застаюцца. Асноўныя спрэчкі — наперадзе. Нагадаем, што праект Канстытуцыі ў другім чытанні будзе разглядацца на бліжэйшай сесіі парламента. Там жа вызначыцца, як яна будзе прымацца — звычайным галасаваннем дэпутатаў ці ўсенародным рэферэндумам.

Анатоль СЛАНЕЎСКІ.

ПАДПІСКА-93




ПАСЛЯ ГАРЭЛКІ ЗАСТАЮЦЦА ПУСТЫЯ БУТЭЛЬКІ. ПАСЛЯ «ЗВЯЗДЫ» — ІНФАРМАВАНАСЦЬ, ЭРУДЫЦЫЯ, ВЕДАННЕ ЖЫЦЦЯ

**Спадзяёмся, што кампанія на здымку зробіць правільны выбар. У рэшце рэшт, што такое гарэлка? Гэта 150 грамаў вадкасці на 10 хвілін задавальнення, ды яшчэ галава з раніцы балець будзе. А «Звязда» прыкладна за тыя ж грошы — гэта 125 нумароў на паўгода задавальнення, ды яшчэ кожнай раніцай новы нумар. І можа калі-небудзь менавіта са «Звязды» вы першыя даведаецеся аб тым, што ваша любімая «Пшанічная» каштуе ўжо не 160 рублёў, а значна менш.**

## Не адкладвайце на заўтра, калі можна аформіць сёння

**ЧАМУ МАРУДНА РАЗГОРТВАЕЦЦА ПАДПІСНАЯ КАМПАНІЯ, ШТО ПЕРАШКАДЖАЕ ЯЕ СВОЕЧАСОВАМУ І МАСАВАМУ ПРАВЯДЗЕННЮ?**

**Верасень імкліва перагортвае лісткі календара, а вынікі, што ўдалося атрымаць у некаторых раённых вузлах сувязі, несуцяшальныя — выпісаны лічаныя экземпляры газет і часопісаў. А між тым у мінулыя гады ў такі час бюджэтная падпіска была ўжо практычна завершана, даволі актыўна ішла індывідуальная. Сёлета гэтага пакуль, на жаль, не назіраецца.**

**Безумоўна, непамерна падскочыў кошт літаральна ўсіх перыядычных выданняў. Але ці толькі высокі іх кошт—асноўная прычына пасіўнасці падпісчыкаў? Магчыма, тут ёсць і іншыя негатыўныя фактары?**

**Менавіта з такіх пытанняў пачалася размова з начальнікам Упраўлення паштовай сувязі і распаўсюджвання друку Міністэрства сувязі і інфарматыкі Рэспублікі Беларусь А. КРАЎЦОВЫМ.**

— На мой погляд,— адказаў Аркадзь Рыгоравіч, — галоўная прычына — нестабільнае фінансавае становішча, грашовая інфляцыя. Вядома, сёння людзі занепакоены і напалоханы пастаянным ростам цэн, і, зразумела, у такой складанай сітуацыі ім, як кажуць, часам не да газет і часопісаў. Многія ламаюць галаву над тым, каб хапіла грошай на хлеб, малако, іншыя прадукты і тавары першай неабходнасці. Да таго ж на некаторых прадпрыемствах, у арганізацыях і ўстановах месяцамі не выдаюць зарплаты — няма на рахунках ні капейкі. У сельскай мясцовасці зараз гарачы час уборкі ўраджаю, шмат іншых неадкладных работ — таксама не да падпіскі. Нельга не ўлічваць і тое, што многія знаходзяцца ў чарговым водпуску, а студэнты і школьнікі цэлае лета былі на канікулах. Цяпер жа навучэнцкую моладзь накіроўваюць «на бульбу» — паспрабуй ахапі іх перыёдыкай.

А вазьміце сёлетнюю чахарду з выхадам і нявыхадам асобных выданняў, са зменай іх кошту, выкліканай пераподпіскай. Вось многія чытачы і займаюць пазіцыю чакання, не спяшаюцца запаўняць падпісныя бланкі, каб потым не мець лішніх клопатаў. Усе гэтыя фактары, а таксама завядзёнка адкладваць афармленне на больш далёкі час адмоўна ўплываюць на ход падпіснай кампаніі.

**— А ці не адбілася тут тое, што сёлета сувязісты нібыта адсунулі ў бок работнікаў «Саюздруку» і, узяўшы цалкам усю падпіску ў свае рукі, сталі манапалістамі?**

— Ну якія мы манапалісты? Так, сёлета «Саюздрук» выйшаў з нашага міністэрства. Аднак ад падпіскі яго работнікаў ніхто не адхіляў і не адсоўваў. У афіцыяльнай заяве міністэрстваў інфармацыі, сувязі і інфарматыкі прама і дакладна сказана: «Падпіска ад грамадзян, прадпрыемстваў, арганізацый і ўстаноў прымаецца без абмежаванняў ва ўсіх паштамтах, вузлах сувязі і аддзяленнях, у пунктах прыёму падпіскі, магазінах, кіёсках і аддзяленнях «Белсаюздруку», а таксама паштальёнамі, грамадскімі распаўсюджвальнікамі друку па месцы работы, вучобы ці жыхарства падпісчыкаў». Дык якая тут можа ісці гаворка аб нейкай дыскрымінацыі?

(Заканчэнне на 2-й стар.).

Ф. СП-1

Міністэрства сувязі і інфарматыкі Рэспублікі Беларусь

АБАНЕМЕНТ на газету 63850 (індэкс выдання)

«ЗВЯЗДА» Колькасць камплектаў

на 1993 год па месяцах

| 1 | 2 | 3 | 4 | 5 | 6 | 7 | 8 | 9 | 10 | 11 | 12 |
|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|
| | | | | | | | | | | | |

Куды ______ (паштовы індэкс) ______ (адрас)

Каму ______ (прозвішча, ініцыялы)

ДАСТАВАЧНАЯ КАРТКА

| ПВ | месца | літар |
|---|---|---|

на газету 63850 (індэкс выдання)

«ЗВЯЗДА»

| Кошт | падпіскі | ___руб.___кап. | Колькасць камплектаў | |
|---|---|---|---|---|
| | пераадрасоўкі | ___руб.___кап. | | |

на 1993 год па месяцах

| 1 | 2 | 3 | 4 | 5 | 6 | 7 | 8 | 9 | 10 | 11 | 12 |
|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|
| | | | | | | | | | | | |

Куды ______ (паштовы індэкс) ______ (адрас)

Каму ______ (прозвішча, ініцыялы)

ВЯРТАЮЧЫСЯ ДА НАДРУКАВАНАГА

# АРШАНСКАЯ БІТВА І ЛЁС БЕЛАРУСІ

Уважліва прачытаўшы артыкул народнага дэпутата Л. Прывалава, прысвечаны сітуацыі, што зараз склалася на Беларусі з прысягай для афіцэраў, можна толькі пазайздросціць той энергіі, з якой ён выступае супраць БНФ і БЗВ.

У якіх толькі грахах не абвінавачвае палкоўнік Прывалаў вышэйзгаданыя арганізацыі. Дзеля справядлівасці варта дадаць, што ініцыятыву БЗВ падтрымалі не толькі БНФ, але і Грамада (дарэчы, нават раней, чым БНФ) і іншыя дэмакратычныя партыі. Аднак вернемся да абвінавачванняў спадара Прывалава.

Палова яго матэрыялу прысвечана таму, што БЗВ і БНФ быццам бы без дазволу Вярхоўнага Савета прыдумалі нейкую сваю прысягу і збіраюцца навязаць яе народу. Але гэта суцэльны падман, бо афіцэры запасу і тыя афіцэры, што зараз знаходзяцца на службе, добраахвотна (падкрэсліваю: **добраахвотна**) хочуць публічна засведчыць сваю адданасць беларускаму народу адпаведна тэксту той прысягі, якая даўно зацверджана Вярхоўным Саветам і якую ўжо даўно прымаюць салдаты.

Аднак я хацеў бы спытаць у Л. Прывалава, ці ведае ён такія дзяржавы, дзе ёсць салдаты, прыняўшыя прысягу, і афіцэры, якія яе не прынялі? Таксама цікава ведаць, чаму без згоды Вярхоўнага Савета Саўмін Беларусі, па прапанове Міністэрства абароны, вызначыў дату прысягі для афіцэраў чамусьці 31 снежня 1992 г.?

Таксама добра было б, каб народны дэпутат на старонках газеты прывёў канкрэтныя прыклады русафобіі з боку БНФ. Цікава, у чым яна заключаецца? Можа, у тым, што сябры Сойма БНФ, рускія па нацыянальнасці, заўжды ў штодзённым побыце карыстаюцца беларускай мовай, а вось беларус палкоўнік Прывалаў яе чамусьці цураецца? А можа, яму не падабаецца тое, што парламенцкая апазіцыя патрабуе фінансавай і прававой абароны для тых афіцэраў — грамадзян Беларусі, якія не па сваёй волі апынуліся за межамі сваёй Бацькаўшчыны і зараз з-за абыякавасці нашага ўрада, і ў першую чаргу Міністэрства абароны, разам з сем'ямі апынуліся ў трагічным становішчы? Вядома, зараз, калі палкоўнік Прывалаў вырашыў для сябе кватэрнае пытанне, а таксама мае сталую работу ў Вярхоўным Савеце, гэтае пытанне можа паказацца яму другарадным: маўляў, іншыя пачакаюць. Але што было б з ім, каб лёс закінуў яго не ў Вярхоўны Савет, а, напрыклад, у Таджыкістан ці Азербайджан?

І апошняе. Называць Аршанскую бітву, адну з самых значных еўрапейскіх баталій XVI ст., ваеннай сутычкай можа толькі вельмі недасведчаны чалавек. Таму я хацеў бы крыху расказаць чытачам газеты аб гэтай падзеі, якая надоўга вырашыла лёс беларускага народа.

Але спачатку некалькі слоў аб той палітычнай сітуацыі, што склалася ва Усходняй Еўропе ў пачатку XVI ст.

У канцы XV— пачатку XVI ст. адносіны паміж новастворанай Рускай дзяржавай Івана III і Вялікім княствам Літоўскім, Жамойцкім і Рускім дасягнулі вялікай напружанасці. Барацьба за палітычны ўплыў у Еўропе і за валоданне землямі былой Кіеўскай Русі перарасла ў шматлікія ваенныя канфлікты. У 1512 годзе пачалася чарговая вайна. Паход маскоўскіх войск узначаліў сам Васіль III — ініцыятар гэтай вайны. Спачатку гарады на мяжы Вялікага княства Літоўскага (Смаленск, Полацк, Мсціслаў) мужна бараніліся, і вораг адступіў. Але ў 1514 годзе Смаленск быў узяты, і царскія войскі рушылі ўглыб краіны, да Друцка і Оршы. На чале рускай арміі былі князь Міхаіл Булгакаў-Голіца і баярын Іван Чаляднін. Насустрач ім выйшла аб'яднанае польска-беларуска-украінска-літоўскае войска пад кіраўніцтвам знакамітага ваяра-гетмана ВКЛ князя Канстанціна Астрожскага. У яго падначаленні было 15 тысяч вершнікаў феадальнага апалчэння ВКЛ, 14 тысяч польскай конніцы, 3 тысячы наёмнай польскай пяхоты, а таксама дробныя феадальныя атрады з Малой Польшчы і шляхціцы-добраахвотнікі з Вялікай Польшчы (усяго каля 2.500 вершнікаў).

Як адзначае рускі гісторык С. Салаўёў, у маскоўскіх ваяводаў было 80 тысяч войска, а ў князя Астрожскага — не болей за 30 тысяч.

У першых сутычках рускія войскі панеслі значныя страты, і тады ў канцы жніўня 1514 года І. Чаляднін сабраў усю рускую армію разам, перайшоў з ёю каля Оршы на левы бераг Дняпра і стаў тут чакаць ворага, каб нанесці яму паражэнне і скончыць ваенную кампанію. Рускае войска заняло пазіцыю паміж гарадамі Орша і Дуброўна на рацэ Крапіўне. Там і адбылася самая буйная бітва ў гэтай вайне.

Вельмі хутка і адначасова войска Канстанціна Астрожскага — пяхота, конніца і артылерыя — перайшло праз Днепр, і раніцай 8 верасня каля 9 гадзін пераправа была скончана. Армія саюзнікаў заняла адпаведныя пазіцыі. Наперадзе сталі два вялікія палкі кавалерыі на чале з самім Астрожскім і Сампалінскім, паміж імі знаходзілася пяхота.

За перадавым атрадам зноў ішлі два палкі конніцы на чале з князем Юрыем Радзівілам і польскім палкаводцам Янушам Свярчоўскім.

На правым і левым крылах размяшчаліся па тры палкі беларуска-літоўскай і польскай конніцы з лёгкім узбраеннем. У кожнага вершніка ў руцэ была доўгая дзіда з белым трохкутным сцяжком пасярэдзіне, уздоўж якога праходзілі дзве вузкія чырвоныя палоскі, якія перакрыжоўваліся. Такім чынам, мы бачым прадвеснікаў бела-чырвонага польскага і бела-чырвона-белага беларускага нацыянальных гістарычных сцягоў. Гарматы былі пастаўлены на правым флангу ў лесе. Там жа была размешчана і пяхота рэзерву.

Маскоўскае войска мела звычайны баявы парадак. У першай лініі на фронце шырынёю ў 5 км стаяў полк пярэдняй варты, за ім вялікі полк і палкі левай і правай рукі. (Рускае войска выступіла пад белым і светла-чырвоным сцягамі.) Ззаду знаходзіўся полк тылавой варты. Усе гэтыя палкі былі коннымі. Гармат у маскоўскай арміі не было.

Ваявода Чаляднін расцягнуў свае сілы таму, што яны былі ўдвая большыя, чым варожыя атрады. Ён хацеў акружыць праціўніка, разбіць яго і скінуць рэшткі разбітых варожых палкоў у Днепр. Але адзінага сапраўднага кіраўніка ў рускіх не было, бо Чаляднін з'яўляўся толькі фармальным галоўнакамандуючым, а кожны з галоўных ваяводаў камандаваў сваім палком асобна.

Спачатку Астрожскі павёў свае атрады на полк правай рукі ваяводы М. Булгакава-Голіцы і разбіў яго. Чаляднін спрабаваў атакаваць праціўніка палком левай рукі, але атака не атрымалася. Сутыкнуўшыся з асноўным рускім войскам, К. Астрожскі наўмысна стаў адступаць і павёў ворага пад агонь сваіх схаваных у лесе гармат, якія ва ўпор пачалі расстрэльваць рускіх вершнікаў.

У гэты крытычны момант сярод маскоўскіх воінаў пачалася паніка — і армія пабегла. Конніца, пасланая князем Астрожскім, каб давяршыць разгром, знішчала ўсіх, хто ратаваўся ўцёкамі, а некаторых узяла ў палон. Шмат хто патануў у Дняпры і Крапіўне. Страты склалі каля 40 тысяч чалавек забітымі. У палон трапілі галоўныя ваяводы Чаляднін і Булгакаў-Голіца і 8 іншых ваяводаў.

Бітва пад Оршай у 1514 годзе пакінула глыбокі след у тагачасных беларускай, украінскай і польскай літаратуры. Так, у Валынскім кароткім летапісе змешчана «Пахвала князю Астрожскаму». Засталася і беларуская народная песня пра бітву пад Оршай, якая ўслаўляла пераможцу — князя Канстанціна Астрожскага.

**Алег ТРУСАЎ,**
**народны дэпутат Беларусі,**
**намеснік старшыні БСДГ,**
**кандыдат гістарычных навук.**

**Сяргей КАСЫХ — адзін з лепшых механізатараў саўгаса «Ушацкі» Ушацкага раёна. «Добрасумленны, працавіты чалавек, сапраўдны майстар сваёй справы»,—такую характарыстыку дае яму дырэктар гаспадаркі Уладзімір Мікалаевіч Круглік. У час сёлетняга жніва Сяргей намалаціў больш як 600 тон жыта і ячменю. Цяпер ён працуе шафёрам на жывёлагадоўчым комплексе і робіць усё, што яму даручана, самым найлепшым чынам.**

**Фота Мікалая АМЕЛЬЧАНКІ.**

## БАЛЬЗАМ НА РАНУ

**Выстаўка Індыйскай фармакалагічнай прамысловасці на днях адкрылася ў Мінску. На ёй прадстаўлены прэпараты шасці фірм Індыі, якія выпускаюць амаль усе медыкаменты для людзей і жывёлы, што існуюць у свеце. Арганізатары выстаўкі мелі на мэце два моманты: магчымасць заключэння дагавораў на закупку лекаў і арганізацыю сумесных фармакалагічных прадпрыемстваў.**

## У РЫНАК УЯЗДЖАЕМ НА КАНІ...

Узнімаць цэны і не заставацца пры гэтым са стратамі ўдаецца зараз мала каму. Але ў конезавода імя Даватара, што ў Ратамцы, з гэтым няма праблем. Іх выхаванцы — цудоўныя коні рэдкай пароды — на аўкцыёнах ідуць нарасхват. Кошт кожнага — ад 100 да 500 тысяч рублёў.

Дарэчы, ахвотна купляюць скакуноў і іншаземцы. Спецыялісты сцвярджаюць, што ў бліжэйшы час айчынныя куры, каровы, свінні і іншая свойская жывёла будуць карыстацца такім жа аўтарытэтам на міжнародным рынку, як і коні.

**(БелаПАН).**

ЛЮДЗІ І ЦЭНЫ

# Збірайце грошыкі, панове пасажыры!

**Ходзяць чуткі, што ў хуткім часе жэтон на праезд у метро падаражае дзесьці разоў у дванаццаць. Чуткі чуткамі, але і галоўны інжынер Мінскага метрапалітэна У. Мацюнін такой магчымасці не адмаўляе.**

— Рубель — гэта толькі «стартавая цана», — упэўнены Уладзімір Іванавіч. — Узраслі выдаткі на паліўна-энергетычныя рэсурсы, заводы-пастаўшчыкі, раскіданыя па ўсім былым Саюзе, дыктуюць свае, часта проста «драконаўскія» ўмовы—на ўсё патрэбны грошы. Аднак на бліжэйшы час пасажыры могуць быць спакойныя—кошт метрапалітэнаўскага жэтона застанецца ранейшым. Ніякіх размоў наконт гэтага з транспартным упраўленнем Мінгарвыканкома—а менавіта там вызначаюцца цэны на праезд—пакуль што не вялося. Але паўтару: рубель—цана далёка не канчатковая.

**— Напэўна, калі-небудзь можна будзе загаварыць і пра самаакупнасць метрапалітэна...**

— Такога не будзе ніколі. Ва ўсім свеце метро — рэч вельмі нерэнтабельная. Толькі абслугоўванне аднаго пасажыра каштуе нам сёння тры рублі. А калі ўлічыць, якія велізарныя грошы ідуць на будаўніцтва метрапалітэна... Бадай, ніхто не пажадае карыстацца паслугамі метро на самафінансаванні. Мяркуйце самі: на першай лініі кожны кіламетр пуці абышоўся нам амаль у 13 мільёнаў рублёў. На другой лініі—ужо 50 мільёнаў. Зараз будаўнічыя работы каштуюць 100 мільёнаў кіламетр—адзін Бог ведае, якім будзе іх кошт нават праз тыдзень.

**— У такім разе хацелася б ведаць, калі запрацуюць новыя станцыі метро?**

— У 94-м годзе плануецца ўвесці ў дзеянне дзве станцыі, размешчаныя па Аўтазаводскай лініі ў бок Пушкінскага праспекта — «Маладзёжную» і «Пушкінскую». Праз год прымуць пасажыраў «Партызанская» і «Аўтазаводская» — да аўтамабільнага завода. Гэта дазволіць нарэшце злучыць так званыя «спальны» і «прамысловы» раёны і зрабіць новую лінію больш рэнтабельнай. Зараз яна абслугоўвае прыкладна каля трыццаці тысяч пасажыраў на дзень. А паслугамі Маскоўскай лініі за суткі карыстаюцца амаль 200 тысяч чалавек. Бо Маскоўская лінія аб'ядноўвае буйнейшыя магазіны, разнастайныя культурныя ўстановы. А па Аўтазаводскай амаль нічога такога няма. Прыслухаліся б да нашых прапаноў пэўныя арганізацыі—выгада была б узаемная.

Вось, напрыклад, самая «бесталковая» станцыя — «Першамайская». Ледзь ці не адзіная ўстанова, да якой яна мае выхад, — будынак былога Дома палітасветы, які час ад часу арандуюць шматлікія камерцыйныя фірмы і кааператывы. Па будніх днях станцыя амаль што «не працуе». А варта было аддаць будыніну моладзі або дзецям — не стаяла б яна паўпустая, як зараз, і ад метро карысць узрасла б. А «Пралетарская»? Зрабіць чыгуначную станцыю «Мінск-Усходні» для некаторых цягніковых напрамкаў канечнай было б на карысць і нам, і чыгуначнікам.

**— Дарэчы, адкуль такая несучасная па-сённяшніх мерках назва—«Пралетарская»? І станцыя выглядае няўтульна. Больш змрочная за яе хіба што «Няміга» — з дзіўнай чорнай штуковінай пад столлю...**

— Другая лінія наогул атрымалася менш удалай, чым першая. Бадай таму, што дызайн Маскоўскай лініі распрацоўваўся на конкурснай аснове. А на Аўтазаводскай падыход да гэтага быў ужо іншы. За архітэктарам замацоўвалася пэўная станцыя, і з самага пачатку толькі ад яго залежала і яе афармленне, і назва. Вядома ж, існаваў і мастацкі савет, але выбіраць ужо не было з чаго. А што датычыцца «Пралетарскай»—першапачаткова яе меркавалі назваць у гонар першых метрабудаўцаў. І галаву скульптурнай выявы мужчыны на выхадзе з метро ўпрыгожвала спачатку зусім не кепка, а каска рабочага. Але ў апошні момант аўтар праекта вырашыў, што «Пралетарская» — назва больш гучная, а кепка — найлепшы галаўны ўбор для сапраўднага пралетарыя...

А наконт «Нямігі»... «Дзіўная чорная штуковіна», на думку аўтара, дарэчы, знакамітага нашага архітэктара Юрыя Міхайлавіча Градава, які ў свой час спраектаваў Мемарыяльны комплекс «Хатынь», павінна была сімвалізаваць старажытную лодку. А яе чорны колер—колер дрэва, якое стагоддзі праляжала ў вадзе. Калісьці на гэтым месцы археолагі знайшлі старадаўняе паселішча, і станцыя задумвалася як успамін пра тыя часы. Па абодва бакі ад яе меркавалася ўстанавіць дзве вялікія люстры, каб стваралася ўражанне воднай прасторы. Але ў патрэбны час люстраў не знайшлі, і атрымалася тое, што атрымалася. На жаль.

**— Але ж, бадай, люстры на «Нямізе»—рэч не вельмі прынцыповая. А вось наконт «плошчы Леніна» многіх цікавіць, як хутка на сценах станцыі з'явіцца іншая назва?**

— Адкажу адразу: іншай назвы не будзе. Як казаў адзін кінагерой: «Кожны ўдасканальвае свет у адпаведнасці з уласнымі недасканаласцямі». Думаю, тое ж можна сказаць і пра ўсе тыя перайменаванні, у якіх ужо можна заблытацца. Няўжо так неабходна гэта рабіць? Калі вяртаюць вуліцам іх старыя назвы — тут яшчэ можна нешта зразумець. Але калі выдумляюць новыя... Назвы—частка гісторыі, і якой бы яна ні была, мяняць іх нельга. Між іншым, метро па ўсіх дакументах значыцца як помнік—бо будуецца на стагоддзі. І як помнік, як сведчанне пэўнага гістарычнага перыяду, павінна захаваць свой першапачатковы выгляд. Нават у назвах. А каб не было залішняй блытаніны, у прыватнасці, для прыезджых, вырашылі аб'яўляць станцыю як «плошчу Незалежнасці».

**— І дадатковыя сродкі не прыйшлося вышукваць...**

— Вядома! А па сённяшнім часе гэта зусім не дробязь! Хоць сякія-такія «пабочныя» даходы ёсць і ў нас. На базе метрапалітэна створаны два сумесныя прадпрыемствы, якія выпрацоўваюць фурнітуру для адзення і патрончыкі для губной памады,—у Расіі яны карыстаюцца вельмі вялікім попытам. Пэўны даход атрымліваем ад камерцыйных крамаў, размешчаных на тэрыторыі метро. Да таго ж у нас створана ўласнае рэкламнае агенцтва. Усё гэта—няхай не вельмі, але дазваляе адчуць пэўную незалежнасць ад дзяржаўных датацый...

**...Інструкцыя, выстаўленая за шклом разменнай касы на станцыі «Кастрычніцкая», паведамляе, што «аплата пасажырамі праезду здзяйсняецца шляхам апускання... 5-капеечнай манеты ў калібравальную адтуліну»... Яе (інструкцыю), напэўна, пакінулі тут таксама ў якасці помніка. Як салодкі напамін пра гады «развітога сацыялізму»....**

**Ірына ЗАВАДСКАЯ.**

ПЫТАННЕ ЖЫЦЦЯ

# ШТО БОЛЬШ ВЫГАДНА: ТРАЦІЦЬ ЦІ БЕРАГЧЫ?

**Жыццё наша жыццейка! Апантанае і незразумелае. Колькі пытанняў, часам недарэчных і вар'яцкіх, ставіць яно перад намі! А дзе шукаць на іх адказы? Няма іх, нідзе няма. І ніхто—у горшым выпадку, амаль ніхто—у лепшым не растлумачыць нам, куды кінуцца, як зрабіць лепш сёння, каб заўтра не шкадаваць аб сваім учынку.**

**Чаму мне так маркотна сёння? А выкліканы такі настрой некаторымі пісьмамі ў рэдакцыю. Вось два з іх. На першы погляд яны пра вечны наш клопат — пра грошы. Калі глянуць глыбей, то яны — пра жыццё наша, пра ўменне арыентавацца ў ім, пра яго горкія і прыкрыя ўрокі, якія не заўсёды ідуць нам на карысць. Але лепш пачытаем пісьмы.**

«Аднойчы я ехала ў міжгародні́м аўтобусе. Дарога доўгая, між пасажырамі завязалася гаворка. Увагу ўсіх прыцягнуў расказ аднаго дзеда. Ён красамоўна абмалёўваў кожнага са сваіх шматлікіх унукаў. З асаблівым захапленнем гаварыў дзед пра ўнучку, якая толькі скончыла два класы школы:

— Ну што за разумніца! Вучыцца толькі на пяцёркі і чацвёркі. А як малюе, пабачылі б! Але галоўнае — вельмі ашчадная. Зараз многія бацькі скардзяцца на бясклапотныя адносіны дзяцей да рэчаў. Гэта дзяўчынка зусім іншая. Ніколі нічога не парве, не разаб'е, не патраціць без толку, нават трох рублёў. Іншы раз маці дасць ёй на білет у кіно. Дык унучка выйдзе на вуліцу, але ў кінатэатр ісці і не думае. Грошы свае схавае. На марожанае ёй даюць, на кніжкі — яна не траціць грошы. Назбіраецца ў яе рублёў 15—25, нясе ў ашчадкасу. Там у яе ўжо ёсць свой рахунак. Унучка завяла сваю ашчадную кніжку па маёй парадзе. І я першы невялічкі ўклад на яе зрабіў.

Я ўявіла сабе амаль ідэальнае дзіця. Але ніяк не стасавалася з гэтым вобразам ашчадная кніжка. Гэта ж трэба, вучаніца трэцяга класа ведае не толькі як беражліва, з розумам траціць, але і як капіць грошы. Згодна: беражлівасць — рыса станоўчая. Але менавіта такая беражлівасць выклікала ў мяне пратэст. На маё здзіўленне, большасць пасажыраў аднесліся да дзедавай унучкі з непрыхаваным адабрэннем і падтрымкай. Толькі адзін пасля мінутнага роздуму заўважыў:

— Ну і скнару ты, дзед, выхоўваеш!

А вы як думаеце?»

Такім пытаннем і такім сумненнем закончыла свой допіс у рэдакцыю выхавальніца дзіцячага сада № 28 г. Барысава Святлана Смольская. Сапраўды, ёсць над чым задумацца. Дзед, які пражыў нямала, вучыць дзіця, якое толькі пачынае жыць, што трэба нешта мець у запасе, ахвяруючы нават сённяшняй радасцю, сённяшнім захапленнем, сённяшнім задавальненнем. Бо заўтра можа ўсё гэта спатрэбіцца. Але для чаго і ў імя чаго?

Ці можа такая ашчаднасць выхаваць добрага чалавека, здольнага адгукнуцца ў любы момант і прыйсці на дапамогу іншаму? З другога боку гэтага медаля ёсць яшчэ адна праблема. Ці трэба ў такім нашым нечаканым і ненадзейным жыцці адкладваць «на заўтра» нашы радасці і надзеі, калі гэтае «заўтра» такое хісткае і ніякай упэўненасці нам не абяцае? Доказы таксама ёсць. І таксама дзедава гісторыя. Толькі яна павучае: тое, што можна патраціць сёння, не пакідайце на заўтра, бо заўтра яно можа прапасці і не апраўдаць вашых надзей.

«За ўсё сваё жыццё дзякуючы ашчаднай кніжцы, адкладваючы па капейцы, — я накапіў каля чатырох тысяч рублёў, — піша ў сваім лісце ў «Звязду» ветэран вайны і працы з Гомеля І. Кавалёў (поўнага імя і імя па бацьку не назваў). — Капіў, каб мець нейкую надбаўку да пенсіі і жыць па-чалавечы на старасці гадоў. Гады тры назад як удзельнік Вялікай Айчыннай вайны стаў на льготную чаргу на халадзільнік. Тады ён каштаваў 500 рублёў (халадзільнік «Мінск»). Нядаўна пазванілі мне з магазіна і сказалі, што падышла мая чарга, прыходзьце і забірайце халадзільнік, але каштуе ён зараз 20 тысяч рублёў. Гэта ж у 40 разоў даражэй! А ў мяне на кніжцы толькі 4 тысячы рублёў. Я ж разлічваў, што куплю халадзільнік і яшчэ 3,5 тысячы застанецца на іншыя расходы. Мяса дарагое, цукар таксама. І ўражанне такое, што ўрады дзяржаў СНД толькі займаюцца пытаннямі павышэння цэн. Прычым спаборнічаюць між сабой. Расія павысіла цэны — значыць і нам трэба, бо раскупляюць нашыя тавары. Ці думае наш урад пра грашовыя ўклады свайго народа, якія знаходзяцца на захаванні ў Дзяржаўным банку? Я вяду гаворку перш за ўсё пра тэрміновыя ўклады. Іх трэба павысіць у 30—40 разоў, каб той, хто доўгія гады збіраў на халадзільнік, змог яго зараз купіць. Усе ўклады трэба, каб павялічваліся з улікам росту цэн на тавары. Так будзе справядліва і някрыўдна для людзей».

Вось і думайце, вось і мяркуйце. Дзве праўды двух умудроных жыццём людзей. Чыя праўда больш праўдзівая? Я адказаць катэгарычна на гэтае пытанне не магу. Жыць без усялякага запасу цяжка. Але і адмаўляць сабе ў нечым, спадзеючыся на лепшае будучае, а потым адчуць сябе самім сабой падманутым — крыўдна. Спадзявацца на дзяржаву? Наўрад ці можна. Але яшчэ адзін момант для роздуму.

Як растлумачыў начальнік упраўлення зберажэнняў і каштоўных папер Ашчаднага банка РБ Аляксандр Маркун, усё, што магчыма было зрабіць для кампенсацыі таго ўрону, які пацярпелі ўкладчыкі грашовых зберажэнняў за час павышэння цэн, зроблена. Як будзе далей, пакуль невядома. Трэба шукаць крыніцы фінансавання. Дзяржаўны бюджэт не ў стане вытрымаць усе выдаткі.

А што было зроблена канкрэтна, мабыць, усе яшчэ памятаюць. Бо рабілася гэта нядаўна. Рашэннем урада з 1 красавіка 1991 года да 1 студзеня 1992 года была праведзена разавая індэксацыя грашовых укладаў. Індэкс цэн склаў тады 19,3 працэнта. На столькі павялічыліся ўсе астаткі ўкладаў на суму да 10 тысяч рублёў уключна. Нагадаю, што такое абмежаванне дапушчана таму, што асноўная маса нашага народа мае такія зберажэнні. Вышэйшыя — у адзінак.

Індэксацыя за 1992 год праводзіцца шляхам павышэння працэнтных ставак па ўкладах.

Гэта пакуль усё, што ўдалося знайсці ў кішэні дзяржавы і размеркаваць паміж грамадзянамі, якія захоўваюць грошы ў Ашчадным банку Беларусі.

Нават і не думайце — я зусім не заклікаю складваць грошы ў бляшанку і закопваць іх пад 13-й цаглінкай правага вугла вашага дзевяціпавярховага дома. Проста ўсяму ёсць межы і на ўсё трэба пачуццё меры. Але я супраць таго, каб дзіця грошы, дадзеныя яму на кніжку з малюнкамі, добрымі вершамі і казкамі, заносіла скупым радком лічбаў у ашчадную кніжку.

І я супраць таго, каб на старасці гадоў застацца ля разбітага карыта не таму, што я занадта шмат хацела, а таму што мяне ашукалі і абакралі сярод белага дня толькі таму, што я чэсна хацела жыць і спадзявалася толькі на сябе і на дзяржаву, а потым убачыць, што ўсе спадзяванні дарэмныя. — я ўжо старая, а дзяржава бедная. Ёй не да мяне.

Гэта — несправядліва. Гэта — прыкра і вельмі крыўдна.

**Марыя ДАБЖЫНСКАЯ.**

ПАДПІСКА-93

## ПРАВЕРЦЕ ПРАВІЛЬНАСЦЬ АФАРМЛЕННЯ АБАНЕМЕНТА

На абанеменце павінен быць праастаўлены адбітак касавай машыны.

Пры афармленні падпіскі (пераадрасоўкі) без касавай машыны на абанеменце праастаўляецца адбітак каляндарнага штэмпеля аддзялення сувязі. У гэтым выпадку абанемент выдаецца падпісчыку з квітанцыяй аб аплаце кошту падпіскі (пераадрасоўкі).

Для афармлення падпіскі на газету або часопіс, а таксама для пераадрасавання выдання бланк абанемента з даставачнай карткай запаўняецца падпісчыкам чарнілам, разборліва, без скарачэнняў, адпаведна ўмовам, выкладзеным у каталогах.

Запаўненне месячных клетак пры пераадрасаванні выдання, а таксама клеткі "ПВ-МЕСЦА" робіцца работнікамі прадпрыемстваў сувязі.

# Не адкладвайце на заўтра, калі можна аформіць сёння

**(Заканчэнне. Пачатак на 1-й стар.).**

Дарэчы, варта зазначыць вось што. Задача работнікаў «Саюздруку» — толькі аформіць падпіску. Затое яе апрацоўка, экспедзіраванне, перавозка і дастаўка адрасатам — гэта ўжо клопаты сувязістаў.

**— Рэдакцыя газеты «Звязда», некаторыя іншыя выданні бяруць на сябе дадатковыя выдаткі, каб матэрыяльна заахвоціць паштальёнаў, грамадскіх распаўсюджвальнікаў больш актыўна праводзіць падпіску. А што ў гэтым кірунку прымае Міністэрства сувязі? І наогул, якія ў вас з'явіліся новыя формы і метады работы?**

— Не толькі рэдакцыі, журналісты турбуюцца аб тыражах сваіх выданняў. Не менш зацікаўлены ў гэтым і мы, сувязісты. За подпісам кіраўніцтва міністэрства ў вобласці і раёны адпраўлены дакумент, у якім ставіцца канкрэтная задача: дасягнуць падпіскі неабходнага тыражу газет і часопісаў. Робіцца гэта з той умовай, каб захаваць працоўныя калектывы, забяспечыць іх работай і зарплатай. Інакш, калі яны дрэнна спрацуюць, то зменшыцца аб'ём работы. І само па сабе тады ўзнікне пытанне: навошта нам патрэбен ранейшы штат? А гэта пры рыначных адносінах пахне ўжо скарачэннем і беспрацоўем. Так?

Зразумела, у кожным раённым вузле сувязі, паштовым аддзяленні работнікі самі будуць шукаць розныя, уласцівыя ім формы дзейнасці. Да месца варта сказаць, што асаблівая ўвага будзе ўдзелена хворым, інвалідам, састарэлым: па іх просьбе афармяць падпіску на даму. І гэта вельмі правільна.

Практыка пацвердзіла, што найбольш надзейнай і гарантаванай бывае падпіска, калі чалавек афармляе яе ў сваім аддзяленні сувязі па месцы жыхарства. Тут правільна, з найбольшай дакладнасцю запаўняюцца даставачныя карткі, без лішняй валакіты, лёгка і аператыўна вырашаюцца пытанні пераадрасоўкі ці наогул анулявання падпіскі і вяртання за яе грошай. Адным словам, з большай адказнасцю будзе дзейнічаць ланцужок: выдавецтва — пошта, пошта — падпісчык.

Што датычыць заахвочвання нашых работнікаў за падпіску, то яно ў нас не прадугледжана — няма сродкаў для стварэння адпаведнага фонду. І ўсё ж па канчатковых выніках кампаніі будуць вызначаны лепшыя раёны, вобласць. З улікам гэтага па магчымасці і адзначым калектывы вузлоў сувязі, паштовых аддзяленняў, асобных работнікаў, якія пастараліся лепш за іншых.

Тое, што самі рэдакцыі, як, напрыклад, «Звязды», маюць намер стымуляваць тых, хто найлепш будзе праводзіць падпіску на іх выданні, можна толькі вітаць. Аднак тут адразу ўзнікаюць пытанні: хто будзе збіраць даныя, рыхтаваць патрэбную дакументацыю? Гэта ж, пагадзіцеся, добры кавалак работы. Нарэшце, які сам механізм разліку з вузлом ці аддзяленнем сувязі? Невыпадкова кіраўнікі звоняць нам, цікавяцца гэтым. Таму я параіў бы ўжо цяпер растлумачыць, узгадніць, вырашыць усе нюансы, каб потым не было непаразуменняў і крыўды.

**НЕАБХОДНАЕ ЎДАКЛАДНЕННЕ. Калі паступаюць такія пытанні, то яшчэ раз растлумачваем, што выплату па выніках падпіскі будуць праводзіць тыя арганізацыі, у якіх працуюць распаўсюджвальнікі нашай газеты. Менавіта сюды рэдакцыя «Звязды» пералічыць адпаведныя сродкі. А ўжо тут, на месцы, кожнаму павінна быць выплачана столькі, колькі будзе належаць.**

**І па свайму службоваму абавязку ўсёй гэтай справай зоймуцца кіраўнікі раённых вузлоў сувязі і і паштовых аддзяленняў. Ну, што тут яшчэ можа быць незразумела!**

**— А якія праблемы ўзніклі ўжо ў ходзе самой падпіскі?**

— У сувязі з тым, што выдавецтвы і рэдакцыі доўга ўзгаднялі цэны на свае выданні, нельга было своечасова скласці і выпусціць у свет каталогі. У многім з-за гэтага сёлета пазней пачалася падпіска. Зараз гэтымі дапаможнікамі забяспечаны ўсе нашы падраздзяленні.

Нас больш за ўсё хвалюе вось што. У каталогах цэны на некаторыя рэспубліканскія газеты і часопісы ўказаны толькі тыя, якія назвалі выдавецтвы і рэдакцыі. Але ж у гэтыя сумы не ўключаны паслугі сувязі. Савет Міністраў рэспублікі паабяцаў, што на гэтыя затраты (а яны адчувальныя) выдзеліць датацыю. Праўда, усё гэта да сённяшняга дня на словах: пісьмовага рашэння пакуль няма. І калектывы сувязістаў заклапочаны гэтым, чакаюць яго, хвалююцца. Інакш мы можам панесці значныя страты і застацца ля разбітага карыта, ці давядзецца прымаць непажаданыя меры.

**— «Звязда» паведамляла ўжо аб тым, у якіх рэспубліках былога Саюза можна выпісаць беларускія выданні. Тым не менш у рэдакцыю пішуць, званяць і нават прыязджаюць нашы землякі і скардзяцца, што не могуць там выпісаць газету ці часопіс на сваёй роднай мове. Чаму ж такое адбываецца?**

— На гэта хачу адказаць так. У каталогу Цэнтральнага рознічна-падпіснога агенцтва «Расдрук», якое ўзяло на сябе каардынацыю гэтых пытанняў, уключаны 55 беларускіх рэспубліканскіх выданняў (23 газеты, у тым ліку і «Звязда», і 32 часопісы). Так што ва ўсіх краінах СНД, якія заключылі адпаведнае пагадненне, можна бесперашкодна аформіць падпіску на гэтую перыёдыку. І зрабіць гэта могуць не толькі нашы землякі, а кожны, хто пажадае.

**— Як сведчаць многія факты, зноў паўтараецца знаёмы малюнак: спачатку раскачка, а затым гарачка, аўралы, штурм, якія заканчваюцца просьбай прадоўжыць тэрміны падпіскі. І сёлета таксама будзе такое?**

— Не, мы, сувязісты, супраць такой практыкі. Але даводзіцца лічыцца з рэальнасцю. І мне хацелася б параіць вам, паважаныя нашы падпісчыкі: не адкладвайце, не цягніце да апошняга дня. Яшчэ раз падлічыце свае сродкі і магчымасці, выберыце тыя газеты, часопісы, якія вас зацікавілі, і аформіце на іх падпіску. Пагадзіцеся: навошта адкладваць гэту справу на заўтра, калі яе можна зрабіць сёння. Дамовіліся?

**Гутарыў Іван БРАЛКА,**
**кар. «Звязды».**

# РОЗГАЛАС

## САЛДАТ «ПАД КАЙФАМ»—НЕ САЛДАТ

**Нідзе не ваюючы, чацвёра хлопцаў з Брэста знайшлі сабе смерць у арміі ў гэтым годзе. Гэта пры тым, што раней за год гінуў у сярэднім адзін брастаўчанін. Самы апошні выпадак — труп салдата другога года службы, знойдзены на чыгуначным палатне паблізу Маларыты.**

Даследуючы гэту праблему, журналісты газеты «Вечерний Брест» прыйшлі да вываду, што асноўнай прычынай гібелі хлопцаў у форме становіцца алкаголь. І адкуль толькі ўзяўся няпісаны закон, што салдат не можа вярнуцца ў часць без бутэлькі. Лічыцца ганебным не піць у звальненні.

А ў нядзелю ў паяздах— п'яны салдат, на жаль, не рэдкасць. Цяпер, калі ім дазволілі па выхадных наведваць бацькоўскі дом, а многія беларусы служаць ледзь ці не ля сваёй ваколіцы, нямала хваляванняў у салдацкіх маці.

У пагоні за доўгім рублём прадаўцы магазінаў і шматлікіх камерцыйных кіёскаў прадаюць салдатам гарэлку без усялякага сораму. І нікога не хвалюе, што для некаторых абаронцаў Айчыны гэта бутэлька можа стаць апошняй.

**Іван КУКСА,**

## ДАЙШЛА ЧАРГА І ДА КІНО

ТАЛАЧЫН. **(Т. Махтадуй).** Сёлета ў раёне небывалымі тэмпамі закрываюцца сельскія кінаўстаноўкі. На сённяшні дзень з 51 іх уцалела толькі 30. Ды і астатнія наўрад ці дацягнуць да новага года. Прычына ў тым, што ўсе раённыя кінаўстаноўкі стратныя. Вяскоўцы адмаўляюцца глядзець кіно перш за ўсё таму, што дарагія білеты. Згодна з рашэннем аблвыканкома цана білета сёння роўная 6—9 рублям. Да таго ж гледачам прапануюцца старыя фільмы, якія не выклікаюць у іх цікавасці. Вось і пустуюць сельскія клубы, кансервуецца дарагая кінаапаратура. Магчыма, у бліжэйшыя гады зноў усё стане на сваё месца. Але колькі гэта запатрабуе сродкаў і часу?

## ДЫВІЗІЯ РАЗВІТВАЕЦЦА З ВІЦЕБСКАМ

**Амаль пяцьдзесят гадоў гвардзейская ордэнаў Суворава і Кутузава Смаленская дывізія авіяцыі мела прапіску ў горадзе на Дзвіне. У чэрвені 1944 года яе салдаты і афіцэры ўдзельнічалі ў вызваленні Віцебска. І вось гэтымі днямі лётчыкі і тэхнікі дывізіі, яе ветэраны сабраліся на развітальны мітынг: згодна з рашэннем камандавання расійскага міністэрства абароны пачаты вывад тэхнікі і людзей за межы Беларусі.**

**Для многіх ваеннаслужачых у сувязі з атрыманнем загада аб перадыслакацыі ўзнікла пытанне: што рабіць? Многія тут маюць сем'і, добра абжыліся. Аднак загад ёсць загад. Авіятары пакуюць чамаданы.**

**Сяргей НІКАНОРАЎ. (БЕЛІНФАРМ).**

## Ад Івана да Абрама

ГРОДНА. У горадзе здымаецца стужка сумеснай беларуска- французскай вытворчасці з рабочай назвай «Я — Іван, ты — Абрам». У цэнтры фільма — жыццё яўрэйскай сялянскай сям'і ў 30-х гадах нашага стагоддзя ў даваеннай Польшчы. Спонсарам беларуска - французскага фільма выступіла творчае аб'яднанне «Вітт» студыі «Беларусьфільм». У ім здымаюцца такія «зоркі» кіно СНД, як Калягін, Гердт, Джыгарханян, Юрскі і іншыя. Невядома, якія ганарары атрымалі яны, а вось простым гродзенцам, якія ўдзельнічалі ў масоўцы, выдалі па 300 рублёў за здымачны дзень. Дарэчы, усе правы на пракат фільма поўнасцю належаць французскаму боку.

## «Ягадкі» будуць потым

**ВІЦЕБСК. Ужо колькі гадоў прайшло пасля вайны, а рэха яе чуваць і ў нашы дні. Нядаўна на дне Дзвіны былі знойдзены 150 снарадаў. Прычым увесь гэты арсенал знаходзіўся якраз насупраць камбіната імя Камуністычнага Інтэрнацыянала Моладзі. Але гэта, здаецца, толькі кветкі, таму што, па прагнозах ваенных, пад вадой знаходзіцца цэлы транспарт боепрыпасаў.**

## Удалых стартаў!

У суботу ў «заходняй зоне» стартуе розыгрыш Кубка Міжпрафесіянальнай хакейнай лігі, які прыйшоў на змену колішняму чэмпіянату Савецкага Саюза. У гэты дзень у мінскім Палацы спорту сустрэнуцца «Дынама» (Мінск) і «Рыгас Старс». Паўторная гульня адбудзецца ў нядзелю. Акрамя гэтых каманд у нашай зоне гуляюць таксама кіеўскі «Сокал», армейцы з Санкт-Пецярбурга, чарапавецкі «Металург» і саратаўскі «Крышталь».

Сумаваць хакейным балельшчыкам сёлета не давядзецца: неўзабаве мінскае «Дынама» прыме ўдзел у розыгрышы Кубка еўрапейскіх чэмпіёнаў, а затым наступіць чарга і нацыянальнай зборнай, якая ў пачатку лістапада будзе гаспадыняй кваліфікацыйнага турніра за права ўдзелу ў чэмпіянаце свету групы «С».

## ВЕСТКІ АДУСЮЛЬ

### СПРАВЫ СВІНЯЧЫЯ

Прэзідэнт ЗША Джордж Буш адобрыў план закупак краінамі СНД амерыканскай свініны па субсідзіраваных цэнах. Гэты крок дазволіць рэспублікам Садружнасці набыць каля 30 тысяч тон свініны па цэнах ніжэй за рыначныя.

### ТАНКІ Ў ПАДАРУНАК

**А'яднанне «Салікамскпаперпрам» падарыла свайму падшэфнаму леспрамгасу... танк Т-64. Праўда, з яго знята ўзбраенне і спецыяльнае абсталяванне. Аб'яднанне збіраецца ў бліжэйшы час закупіць яшчэ некалькі адзінак баявой тэхнікі для выкарыстання ў падсобных гаспадарках.**

### ШТО ЗАТРЫМАЎ — ТОЕ ТВАЁ

Указам прэзідэнта Рахмана Набіева ўсе канфіскаваныя ў парушальнікаў дзяржаўнай граніцы паміж Таджыкістанам і Афганістанам сродкі будуць перададзены пагранічным падраздзяленням.

### АСУДЖАНЫЯ... МЕЦЭНАТЫ

**Матэрыяльную падтрымку абяздоленым дзецям аказваюць не толькі багатыя прадпрымальнікі. Асуджаныя трэцяга атрада Цалінаградскай папраўча-працоўнай калоніі асобага рэжыму перадалі сваю месячную норму цукру, масла і малака дзецям з Акмолінскага дома дзіцяці.**

# Калюга і Сельцы чакаюць «дэсант»

## НАШ СПЕЦЫЯЛЬНЫ КАРЭСПАНДЭНТ ПАБЫВАЎ З ВЕРАСНЯ Ў ЗГАРЭЛЫХ ВЁСКАХ ГЛУСКАГА РАЁНА

**Верталёт вылецеў з мінскага ваеннага аэрадрома і ўзяў курс на Глускі раён. Раз-пораз ілюмінатары зацягвала дымам, і з вышыні птушынага палёту адкрывалася страшная карціна знішчанага пажарам знакамітага беларускага пейзажу: паваленыя дрэвы, чорныя плешыны апаленай зямлі... Праз 40 хвілін палёту я ўбачыў тое, што яшчэ два тыдні назад было вёскай Калюга. Ужо разабраны абгарэлыя коміны, што нагадвалі Хатынь, затое сцягнутыя ўбок горы абломкаў і металалому могуць скласці канкурэнцыю краявідам з фільма Таркоўскага «Сталкер». Ад усёй вёскі засталіся толькі магазін ды невялікая лазня...**

Для жыхароў, якія пацярпелі ад пажару, прылёт верталёта — знак таго, што пачынаецца чарговая стадыя дапамогі. Некалькі дзесяткаў пагарэльцаў Калюгі, якія засталіся без прытулку, адразу акружаюць начальніка штаба Грамадзянскай абароны Рэспублікі Беларусь генерал-лейтэнанта Анатоля Панамарова. Жанчыны апрануты ў «хэбэ», целагрэйкі і боты — усе пагарэльцы атрымалі ад войскаў ГА ваенную амуніцыю. Адна з бабуль, сарамліва ўсміхаючыся, просіць генерала дапамагчы набыць анучы да выдадзеных салдацкіх ботаў, другая — хустку. І тут жа пасыпаліся просьбы.

— Хутка пахаладае, таму не пашкодзілі б зімовыя шапкі.

— Няблага было б атрымаць да марозаў валёнкі і галёшы.

— Час капаць бульбу, абяцаныя прэм'ер-міністрам Кебічам мяхі выдалі, а вось рыдлёвак няма.

— Няма іншых гаспадарчых прылад: сякер, вілаў.

Панамароў тут жа аддае неабходныя загады, і таму я ўпэўнены, што літаральна заўтра ў жыхароў Калюгі з'явяцца і анучы, і сякеры. Жанчыны са слязамі на вачах абдымаюць генерала, дзякуюць ваенным за дапамогу. І тут жа гучаць словы абурэння ў адрас тых сродкаў масавай інфармацыі і палітыкаў, якія распаўсюджваюць чуткі аб жабрацкім лёсе жыхароў Калюгі і Сельцаў, заклікаюць збіраць для «пакінутых пагарэльцаў» штаны і целагрэйкі. Самі ж пагарэльцы рашуча адмаўляюцца ад такіх чутак. Яны расказваюць аб тым, што ўжо наступнай раніцай пасля трагедыі яны адчулі дапамогу дзяржавы. У Калюгу прывезлі хлеб, яйкі, ваду, ложкі, пасцельную бялізну, выдалі кожнай сям'і па 30 тысяч рублёў, потым яшчэ. Зараз па складзеным спісе ў сельсавеце пацярпеўшыя могуць атрымаць на сям'ю тэлевізар, халадзільнік, канапу, іншую неабходную мэблю і хатнія рэчы. Прычым з усяго гэтага спіса толькі за халадзільнік трэба плаціць грошы, ды і то невялікую па сённяшніх днях суму — 12 тысяч рублёў. Акрамя таго, пагарэльцы атрымліваюць штодзень трохразовае харчаванне, А жывуць яны ў кватэрах на цэнтральнай сядзібе, у сваякоў і суседзяў з іншых вёсак. У час пажару згарэла шмат свіней, а вось каровы ўцалелі амаль усе. У дзень нашага прыезду канчаткова вырашалася пытанне з сенам і камбікармамі для іх. Дарэчы, большасць просьбаў, выказаных у час прылёту Вячаслава Кебіча, ужо выканана. І гэта зусім не рэверанс газеты ў адрас урада. Проста людзі, якія трапілі ў бяду, не засталіся з ёй сам-насам, а адчулі на сабе клопат дзяржавы, суайчыннікаў, аб чым казалі самі разам са словамі ўдзячнасці...

**ІНФАРМАЦЫЯ ДЛЯ РОЗДУМУ:**

**ПАЖАРЫ**

**На 3 верасня ў Беларусі былі 283 ачагі пажараў на плошчы 10 тысяч гектараў.**

**Усяго ў тушэнні пажараў прымала ўдзел 6.071 чалавек і 1.412 адзінак тэхнікі. З іх: неваенізаваных фарміраванні Грамадзянскай абароны—2.187 чалавек і 741 адзінка тэхнікі; ад воінскіх часцей ГА — 150 чалавек і 60 адзінак тэхнікі; ад часцей Міністэрства абароны — 1.617 чалавек і 217 адзінак тэхнікі; ад упраўлення пажарнай аховы МУС — 490 чалавек і 168 адзінак тэхнікі; ад трубаправодных падраздзяленняў — 10 камплектаў працягласцю 42 кіламетры.**

**Найбольш небяспечнымі з'яўляліся 5 ачагоў у Докшыцкім, Уздзенскім, Хойніцкім, Быхаўскім і Ганцавіцкім раёнах.**

Неўзабаве пачнецца адраджэнне згарэлых вёсак. Расчыстка Калюгі і Сельцаў ужо амаль завершана. Пачынаючы з 31 жніўня яе праводзіць брыгада Грамадзянскай абароны пад камандаваннем палкоўніка Віталя Масенжука. Нягледзячы на нялёгкія паходныя ўмовы, салдаты і афіцэры працуюць старанна, дзеляцца з насельніцтвам, чым могуць. Дарэчы, каб пазбегнуць непаразуменняў, рэшткі дамоў і надворных пабудоў расчышчаліся толькі ў прысутнасці іх гаспадароў.

Па просьбах жыхароў Сельцы і Калюга будуць адноўлены на старым месцы. Такім чынам, кожны пагарэлец застанецца на сваім уласным падворку. Як вядома, на адраджэнне гэтых дзвюх глускіх вёсак распараджэннем Савета Міністраў РБ выдзелена да 140 мільёнаў рублёў. Заказчыкам афіцыяльна выступае ўпраўленне капітальнага будаўніцтва Глускага райвыканкома, а генеральнымі падрадчыкамі сталі карпарацыя «Белбуд» і «Белсельбуд», якім, згодна з вышэйназваным распараджэннем, Магілёўскі аблвыканком павінен выдзеліць па 30 мільёнаў рублёў. Праектаваннем дамоў і аб'ектаў бытавога і сацыяльна-культурнага прызначэння хуткімі тэмпамі займаецца зараз практычна ўвесь калектыў галіновага магілёўскага праектнага інстытута «Аблсельбуд». У Калюзе згарэла 25 жылых дамоў, у Сельцах — 6, а ўсяго агонь знішчыў 46 будынкаў. Спраектаваць і пабудаваць трэба будзе прыкладна 40 дамоў, ФАП, лазню, новы магазін, электрасетку, водныя і іншыя неабходныя камунікацыі.

Падрыхтоўкай да будаўніцтва кіруе начальнік тэрытарыяльнага ўпраўлення архітэктуры і будаўніцтва Савета Міністраў РБ Роберт Варанюк. Ён пазнаёміў нас з тым, што будзе ўяўляць сабой адноўленае жыллё пагарэльцаў. У аднапавярховым доме будуць жылыя пакоі, печ, склеп, туалет, ванная, газабалонныя ўстаноўкі, ацяпленне — ад воданагравальных калонак. Акрамя таго, на двары будзе хлеў са склепам і яшчэ адзін туалет. Такім чынам, новае жыллё будзе на парадак лепшым за тое, у якім жылі жыхары Калюгі і Сельцаў да трагічнага пажару. Нават некаторыя гараджане могуць пазайздросціць...

У панядзелак, 7 верасня, сюды прыедзе намеснік Старшыні Савета Міністраў Рэспублікі Беларусь Станіслаў Брыль. З гэтага ж дня ў Калюгу і Сельцы пачне высаджвацца вялікі дэсант тых, хто будзе аднаўляць вёскі. Частковa яны размесцяцца ў піянерскім лагеры, а галоўныя сілы (каля 200 чалавек — па 10 чалавек у палатцы), — у Калюзе, у палатачным лагеры, які павінен быць пастаўлены да панядзелка сіламі брыгады ГА. У саставе дэсанта — па 10 высокакваліфікаваных спецыялістаў будаўнічых спецыяльнасцей з кожнага раёна Магілёўскай вобласці і іншых куткоў Беларусі.

Да работ будзе прыцягнута больш за 20 адзінак рознай тэхнікі, таму прапрацоўваецца пытанне запраўкі палівам. Яна будзе ажыццяўляцца як па талонах, так і іншымі шляхамі.

Дзякуючы таму, што тэлефонны кабель не пацярпеў ад агню, праблем з сувяззю не будзе. Паўстала ў наш неспакойны час пытанне аховы палатачнага гарадка, тэхнікі, будматэрыялаў і маёмасці будаўнікоў. Дырэктар эксперыментальнай базы «Глуск», на тэрыторыі якой знаходзяцца Калюга і Сельцы, Валерый Чэпік, паабяцаў выдзеліць двух вартаўнікоў. Адпаведныя інструкцыі дадзены і Глускаму РАУС, у якім зараз дастаткова супрацоўнікаў, каб дапамагчы тут.

Аплата ўсім удзельнікам будаўніцтва згодна з распараджэннем СМ РБ будзе ажыццяўляцца па павышаных, чарнобыльскіх тарыфах. Будзе назначаны і камендант будаўніцтва.

Цікавы факт: па ініцыятыве ваенных і пры падтрымцы раённых улад прынята неафіцыяльнае рашэнне забараніць продаж у магазіне гарэлачных вырабаў і ўзмацніць кантроль над самагоншчыкамі суседніх вёсак. Гэта, лічу, правільнае рашэнне ва ўмовах вялікага мужчынскага калектыву. У цэлым жа ў магазіне розных харчовых і іншых тавараў будзе дастаткова. Ужо ёсць шмат цыгарэт, а з прывозам халадзільніка магазін літаральна на вачах запаўняецца каўбасой, каўбаснымі вырабамі. Да 7 верасня будуць распланаваны месцы будаўніцтва і завезены першыя партыі неабходных будматэрыялаў. А з 8 верасня дэсант павінен ужо разгарнуць фронт работ. Як вядома, Савет Міністраў Рэспублікі Беларусь на аднаўленне вёсак Калюга і Сельцы адвёў усяго тры месяцы. Уявіўшы сабе размах падрыхтоўчых работ і адкінуўшы ўбок традыцыйны скептыцызм у адносінах да «саўковага даўгабуду», будзем спадзявацца, што новы 1993 год пагарэльцы сустрэнуць у сваіх адроджаных вёсках...

Мы адляталі са згарэлага вясковага поля, на якім пасля двухдзённых дажджоў пачала ўзыходзіць маладая зялёная трава. І падумалася мне, што хутка і Калюга з Сельцамі гэтак жа, наперакор агню, пацягнуцца да сонца новымі жыватворнымі парасткамі сваіх гаспадарак.

**Станіслаў СУЛКОЎСКІ.**

**АД РЭДАКЦЫІ:** Рэдакцыя газеты «Звязда» вырашыла ўнесці свой уклад у дапамогу пагарэльцам Глускага раёна. Усе сем'і, што засталіся без прытулку (а іх 31) атрымаюць бясплатную падпіску на «Звязду» на першае паўгоддзе 1993 года.

# СМЕХАТЭРАПІЯ

## Стройце свае жарты дома

— Іван Сцяпанавіч, заўтра да нас марсіяне прыязджаюць, — смеючыся аб'явіў Мікалай свайму начальніку, які праходзіў па калідоры.

— Сапраўды? Дык чаго ж вы смеяцеся? — сур'ёзна спытаў Іван Сцяпанавіч.

Уляцеўшы ў пакой, ён сказаў сакратарцы: «Да мяне нікога не пускаць!» — і ўзяўся за тэлефон.

— Мне заўгаса паклічце! — пракрычаў узбуджана. — Таварыш Памочнікаў? Слухайце ўважліва. Усім рабочым тэрмінова выдаць парадныя спяцоўкі. Што? Не хопіць? 200 штук! Дастаньце да заўтра!. Дзе хочаце... Гэта яшчэ не ўсё. Паміж суседнімі столікамі пастаўце па вазону... Дзе ўзяць? У «Зялёнтрэсце»... Да заўтра павінны паспець...

Так Іван Сцяпанавіч набіраў нумар за нумарам і аддаваў распараджэнні аж пакуль не заснуў...

...З раніцы зазванілі тэлефоны. Першым рапартаваў сонны голас Пранырына:

— Аб усім дамовіўся... Заўтра сіламі рэстаранаў «Уран», «Плутон» і «Дантон» у парку камбіната накрыюць сталы на сем тысяч месц. Менёй цікавіцеся?

— Абавязкова, — змагаючыся са сном, сказаў начальнік. За паўгадзіннай гастранамічнай справаздачай пачаліся даклады іншых падначаленых. Іван Сцяпанавіч паслухаў і вырашыў пайсці «ў народ». Ён не пазнаў сваіх цэхаў. Рабочыя ў парадных спяцоўках нагадвалі герояў, што сышлі са старонак падручніка па гісторыі, дзе расказвалася пра камуністычную будучыню. У парку на чыста падмеценых алеях стаялі ажурныя сталы ў акружэнні шыкоўных крэслаў. Сталы ўгіналіся ад розных страў і напояў. Вакол гэтага цуда прахаджваліся даўганогія афіцыянткі ў міні і грацыёзна адганялі гнаявых мух. Сонца лагодна зазірнула ў заплыўшыя вочкі Івана Сцяпанавіча. І ён падумаў: «Хутчэй бы вы, марсіянчыкі...»

Але, як вы правільна здагадаліся, ні сёння, ні заўтра, ні нават у чарговы цяжкі панядзелак марсіяне так і не з'явіліся.

Стала зразумела, што падманулі і народ, і начальства. Вінаватага знайшлі хутка. Мікалай пры новай сустрэчы з дырэктарам усміхнуўся:

— Гэта ж жарт быў!

— Звольніць! — без сумнення загадаў Іван Сцяпанавіч. І дадаў павучальна: — Стройце свае жарты дома, а не з начальствам.

**Аляксей ПАПКЕВІЧ.**

## З ЖЫЦЦЯ ВЯЛІКІХ

● *Ламаносаў любіў хадзіць з рыбным абозам. А з мясным — не любіў. Знакаміты прыродазнаўца ведаў, што ў рыбе больш фосфару.*

● *Папоў зрабіў першы радыёпрыёмнік. Круціў яго, круціў, але музыку злавіць так і не змог. Узяў і кінуў гэтую справу.*

● *Карл Маркс быў вельмі пладавіты. Таму Фрыдрых Энгельс патраціў цэлае багацце на акушэрак Лондана, Парыжа і Бруселя.*

● *Л. І. Брэжнеў цалаваўся з Р. Ніксанам 4 разы, з В. Жыскар д'Эстэнам — 6 разоў, з Т. Жыўкавым — 18 разоў і з І. Гандзі — 8.251 раз. А вось з маршалам Усцінавым ён зусім не цалаваўся. Па статуту нельга.*

● *Д. І. Мендзялееў адкрыў 40-градусную гарэлку. Потым ён адкрыў 27-градусны «Партвейн»... І ўжо толькі раніцай вялікі вучоны адкрыў, што іх нельга змешваць.*

● *Поль Гаген любіў маляваць палінезійскіх жанчын. А Міклуха-Маклай маляваць не мог, ён іх проста любіў, як умеў.*

**Аляксей АЎЧЫННІКАЎ.**

## АДКУЛЬ ПАЙШЛІ ГЭТЫЯ ВЫРАЗЫ

**(З пункту гледжання медыкаў)**

**Ад душы.** Святочнае віншаванне доктару, якое прыйшло ад трапіўшага ў рай пацыента.

**Сесці на іголку.** Наведаць ін'екцыйны кабінет, што знаходзіцца на самаабслугоўванні.

**Адна галава добра, а дзве лепей.** Любімая прымаўка жыхароў Беларусі пасля чарнобыльскай катастрофы.

**Для адводу вачэй.** Тлумачальны надпіс на цюбіку з тушшу для веек.

**Маўчаць у анучку.** Так загадалі аднаму аперыруемаму, прыклаўшы да яго рота тампон з хлараформам.

**УЛАДЗІМІР А.**



Малюнак А. ПАПОВА.

## Беларускі камітэт па правядзенню падпісной кампаніі папярэджвае...

**«Смехатэрапія», як заўсёды, працягвае першай друкаваць дакументы, якія пакуль невядомыя жыхарам Беларусі. Сёння мы прапануем вашай увазе тэзісы з пасяджэння Беларускага камітэта па правядзенню падпісной кампаніі, які заснавалі шэраг прыватных асоб без партыйнасці, судзімасці і захворвання СНІДам. Чытайце, рабіце вывады і памятайце: мы вас папярэджвалі.**

**1. Падпіска на «Звязду» і Канстытуцыя**

Прапанавана ўнесці ў праект новай Канстытуцыі Рэспублікі Беларусь дадатковым артыкул, змест якога выкласці наступным чынам: «Падпіска на адзіную штодзённую беларускамоўную газету «Звязда» з'яўляецца свяшчэнным доўгам і ганаровым абавязкам кожнага грамадзяніна Рэспублікі Беларусь».

**2. Падпіска на «Звязду» і Адміністрацыйны кодэкс**

У Адміністрацыйны кодэкс РБ прапанавана ўнесці наступныя змены. Паўналетнім будзе лічыцца толькі той грамадзянін Рэспублікі Беларусь, які мае на руках падпісную квітанцыю на «Звязду». Яна будзе з'яўляцца адзіным дакументам, які сведчыць аб асобе грамадзяніна РБ і з 1 лютага 1993 года паступова пачне выкарыстоўвацца замест пашпарта.

**Наша заўвага.** Па падпісной квітанцыі на «Звязду» на 1993 год можна будзе ажыццяўляць камерцыйныя і турыстычныя паездкі ў замежныя краіны, таму што яна будзе адпавядаць укладышу да замежнага пашпарта. Маючы пры сабе вышэйназваную квітанцыю пры праходжанні праз мытню, здымаюцца ўсе абмежаванні на вываз і ўвоз прадуктаў харчавання і тавараў народнага спажывання.

**3. Падпіска на «Звязду» і Крымінальны кодэкс**

Прапрацоўваецца пытанне аб змяненнях у Крымінальным кодэксе Рэспублікі Беларусь. Грамадзянін РБ, які не падпісаўся на «Звязду», прыраўноўваецца да катэгорыі злосных аліментшчыкаў і павінен выплачваць рэдакцыям усіх астатніх беларускіх газет аліменты ў размеры трайнога кошту падпіскі на «Звязду» на працягу года. Таго ж, хто будзе абвінавачаны ў здачы «Звязды» ў макулатуру, чакае больш цяжкае пакаранне — канфіскацыя маёмасці і прымусовае (за тое, што не хочуць ведаць аб падзеях на Беларусі) чытанне ўголас газет Каракалпакіі, Судана і Ненецкай аўтаномнай акругі.

**4. Падпіска на «Звязду» і грашовая палітыка**

У сувязі з гіперінфляцыяй і лібералізацыяй цэн падпісчыкі «Звязды» атрымаюць магчымасць праіндэксаваць свае ўклады ў ашчадкасах і банках па асобнай сістэме. Пры прад'яўленні падпісной квітанцыі на «Звязду» ваш уклад адразу павялічваецца ў 100 разоў і пераводзіцца ў мангольскія тугрыкі па курсу 1:1, а потым штомесячна індэксуецца ў талерах. Дарэчы, і самі новыя беларускія грошы — талеры, будуць распаўсюджвацца ў першую чаргу сярод падпісчыкаў «Звязды» шляхам друкавання на старонках газеты.

**5. Падпіска на «Звязду» і льготы**

Маючы пры сабе падпісную квітанцыю на «Звязду», можна будзе пераходзіць дарогу на чырвонае святло святлафора, заплываць за буйкі і выступаць па ўсіх мікрафонах запар на сесіі Вярхоўнага Савета РБ. Падпісчыкі «Звязды» будуць мець права на бясплатны праезд у гарадскім транспарце (акрамя ліфтаў) і карыстанне водаправодам і каналізацыяй у камунальнай кватэры ў першую чаргу. Падпісчыкі «Звязды», якія ўважліва чытаюць яе, адразу праходзяць у фінал тэлегульняў «Пяць зорак», «Поле цудаў» і «Каханне з першага позірку» і, дзякуючы атрыманай з газеты карыснай інфармацыі, маюць шанц выйграць суперпрызы.

**Станіслаў СУЛКОЎСКІ, каардынатар пры газеце «Звязда» Беларускага камітэта па арганізацыі падпіскі.**

# Як хочаш развважай, а сто рублёў—грошы

## САВЕТ КАНТРОЛЬНАЙ ПАЛАТЫ ДАСЛЕДАВАЎ ХОД ВЫКАНАННЯ. БЮДЖЭТУ РЭСПУБЛІКІ ЗА ПЕРШАЕ ПАЎГОДДЗЕ

**Цікавая і таямнічая гэта рэч — дзяржаўны бюджэт. Яго вельмі цяжка скласці, а яшчэ цяжэй — выконваць, асабліва цяпер, калі ўсё даволі хутка становіцца з ног на галаву. І, паклаўшы руку на сэрца, ніхто ўсур'ёз не цікавіўся раней, што з гэтым бюджэтам адбываецца, па якіх законах ён існуе і наогул, адкуль грошы з'яўляюцца і куды яны знікаюць. Бюджэт быў вотчынай Мінфіна і вышэйшага кіраўніцтва рэспублікі. Для нас раз-пораз паведамлялася, што тут поўны парадак, а крэдыт заўсёды сыходзіцца з дэбетам. А як там яно на самай справе—паспрабуй разбярыся.**

**Кантрольная палата вырашыла разабрацца. Сам гэты факт выклікае павагу.**

### Што мы мелі і чаго не мелі, хоць маглі б мець

Кансалідаваны (г. зн. з улікам мясцовых бюджэтаў) бюджэт Рэспублікі Беларусь складаў на 1992 год 90 мільярдаў 749,8 мільёна рублёў па даходах і 96 мільярдаў 512,4 мільёна — па расходах. Запланаваны дэфіцыт — 5 мільярдаў 762,6 мільёна рублёў, або 6 працэнтаў ад расходнай часткі. Гэта нармальная для сённяшняга становішча лічба.

Тым не менш прынятыя і стаўшыя законам параметры бюджэту былі вытрыманы толькі ў першым квартале. Далей усё паляцела дагары нагамі, і першая карэкціроўка адбылася ўжо ў маі. Чаму—тлумачыць не трэба: цэны. Сур'ёзна гаварыць аб 6-працэнтным дэфіцыце стала несур'ёзным. Да ўсяго гэтага дадаліся ўзрослыя расходы на ліквідацыю вынікаў Чарнобыля (рэзкае падаражанне будаўніцтва), ваенныя расходы (меркавалася, што фінансавацца будуць толькі войскі былой БВА, але дадалі авіяцыю, ППА, ваенныя вучылішчы і г. д., у выніку чаго аказалася: 8,5 мільярда на ўласнае войска мала, і армія проста небаяздольная).

Мала суцяшальнага і з закупкай збожжа ў Казахстане.

Нарэшце, чакаюць павышэння зарплаты настаўнікі, за імі напэўна абудзяцца медыкі, работнікі культуры і г. д. І на ўсё гэта патрэбны грошы.

С. Янчук, міністр фінансаў, скарочаную справаздачу якога вы толькі што прачыталі, тым не менш ухіліўся ад ацэнак. Магчыма з непрывычкі (Мінфін усё ж такі быў «свяшчэнная каровай»), а магчыма спецыяльна, пакінуўшы сабе шлях да адыходу. Скажаш, што добра працавалі, дык дакажуць адваротнае, дрэнна — могуць спытаць: а ці спраўляецеся вы са сваімі абавязкамі?

«Мы выратавалі становішча»,— сціпла рэзюмаваў міністр.

У агульным і цэлым гэта, безумоўна, так. Калі прыпадобніць Мінфін да выратавальнага круга, то ён сваю ролю выканаў: мы не патанулі. Але не патанулі — яшчэ не значыць, што прыбіліся да берага. І тое, што планы больш-менш выканалі, яшчэ не гаворыць аб максімальна эфектыўнай рабоце. Доказы? Калі ласка.

Нядоімка па дзярждаходах на 1 жніўня склала 3,3 мільярда рублёў. Зафіксавана шмат выпадкаў ухілення ад уплаты падаткаў — зноў дзірка ў бюджэце. 458 прадпрыемстваў (або кожнае 10-е) працуюць са стратамі, у выніку чаго казна недаатрымала 2,7 мільярда рублёў.

Асобнай гутаркі заслугоўвае справа асацыяцыі «БелКОМАС», прама скажам, крыху анекдатычная. Даслоўна ўсё выглядае так: у адпаведнасці з распараджэннем Савета Міністраў № 564 р з яго рэзервовага фонду для вырашэння пытанняў, звязаных са стварэннем ветраэнергетычных установак, Беларускай прамыслова - камерцыйнай асацыяцыі міжнароднага дзелавога супрацоўніцтва («БелКОМАС») выдзелена на 2 гады беспрацэнтная пазыка ў суме 27 мільёнаў рублёў. Гучыць сур'ёзна, а калі проста сказаць, дык збіраліся наладзіць выпуск ветраных млыноў. Саўмін грошы даў і стаў ціхенька чакаць млыноў. Але не дачакаўся. «БелКОМАС» знайшла грашам больш разумнае, на яе погляд, прымяненне. 1,13 мільёна пералічана банку «Дукат» і дзяржаўным страхавым камерцыйным арганізацыям, 2,2 мільёна — працэнты за крэдыты, 8 мільёнаў атрымала МП «Сацыяльна - вытворчы цэнтр» у якасці вернутага доўгу і г. д. Карацей кажучы, хлопцы добра ўладкаваліся. А Саўмін можа распачынаць вайну з «ветранымі млынамі». Верагодна, яе зыход будзе падобны на вынікі Дон Кіхота.

Шмат цікавага «накапана» ў адносінах арміі наогул і апарату Мінабароны — у прыватнасці. Толькі зафіксаваныя па актах крадзяжы маёмасці складаюць 5,5 мільёна рублёў. У тым ліку, па «славутай» 5-й танкавай арміі — 1,2 мільёна. І гэта, падкрэслю, толькі верхавіна айсберга. На пасяджэнні прыводзіліся такія факты, што... Што без дэталёвай праверкі даваць іх у друк небяспечна. Наогул, усяму свой час.

А міністр абароны П. Казлоўскі даведку ў адносінах да падначаленага яму міністэрства не падпісаў. Яго, канешне, справа. Тым больш, што ніхто не захоча сам сябе адлупцаваць: ліміт па штатах перавышаны на 75 чалавек.

Вось такія факты і «факцікі». Яны, безумоўна, не сведчаць аб правале работы ў Мінфіне, аб правале бюджэту ў цэлым. Проста з'явілася нейкая ўстанова, у даным выпадку Кантрольная палата, якая вырашыла высветліць: куды, навошта, у якой колькасці і каму ідуць грошы. І вось што аказалася (гл. вышэй).

### Бюджэт на другое паўгоддзе: жыццё пойдзе «крутое»

Уласна, тут бы можна і завяршыць, тым больш, што ўсё напісанае ніжэй не датычыць вузка пастаўленага пытання пасяджэння. Але датычыць нас з вамі.

«У другім паўгоддзі фінансавы стан рэспублікі пагоршыцца яшчэ... Ажыццяўляемыя меры не прымушаюць вытворцаў і спажыўцоў адшукваць рэальныя шляхі выхаду з крызісу, а па-ранейшаму арыентуюць на патрабаванні да дзяржавы. Па прагнозах Мінфіна, у другім паўгоддзі дадаткова будзе атрымана даходаў у суме 24 мільярды рублёў, аднак расходы з прычыны росту цэн узрастуць на 160 мільярдаў рублёў... Калі мяркуемыя расходы ажыццёвяцца ў плануемых размерах, дэфіцыт бюджэту рэспублікі можа скласці больш як 150 мільярдаў рублёў, або 40 працэнтаў да расходаў» — гэта з даведкі.

Мне, як і вам, гэта даведка здалася сумнай. І наша далейшае жыццё — таксама. На пасяджэнні Кантрольнай палаты міністр фінансаў праінфармаваў аб прапануемых для выратавання бюджэту мерах. Я не хачу забягаць наперад падзей і пералічваць усе магчымыя мерапрыемствы (гэта ўсё пакуль гіпатэтычна), але ўжо сёння можна гаварыць аб тым, што, напрыклад, апарат кіравання і армія могуць быць значна скарочаныя.

Пра астатняе — лепш памаўчу. Бо выбуху эмоцый тады не пазбегнуць: занадта непапулярныя меры прапануе Мінфін. Адно адзначу: дэфіцыт бюджэту не павінен перавышаць 10—12 працэнтаў. Гаварыць аб 40 (па даведцы) не прыходзіцца— гэта ўжо крах.

Сітуацыя склалася такая: Расія цягне цэны да ўзроўню сусветных (што заканамерна), мы, паколькі з рублёвай зоны збягаць не збіраемся, будзем цягнуцца за Расіяй. І разам з ёю падзелім усе нягоды (іх будзе шмат), і ўсе радасці (а вось пра іх пакуль сказаць няма чаго). І каб выжыць, нам трэба трымаць свае фінансы (перш за ўсё, бюджэт) у аскетычным стане: максімум мускулаў і мінімум тлушчу.

Нічога не зробіш: мы хацелі рынак, мы яго атрымліваем.

**Сяргей ШАЎЦОЎ.**

**НЕАБХОДНАЕ ДАПАЎНЕННЕ. А ўсё ж такі Мінфін законы парушаў і Савет Кантрольнай палаты ў сваім рашэнні ад 1 верасня гэта прама адзначыў. Так, з плана плацяжоў за зямлю (1 мільярд 767,2 мільёна рублёў) у бюджэт паступіла толькі 15 працэнтаў. Што гэта, як не ігнараванне закона?**

**Чым іншым, як не ігнараваннем закона аб транзітным падатку, можна назваць практычнае непаступленне ў бюджэт гэтага падатку?**

**Нарэшце, трэці момант, на якім не была засяроджана ўвага вышэй. У свой час быў вызначаны шэраг аб'ектаў, якія фінансуе рэспубліканскі бюджэт. Тым не менш явачным парадкам ён пашыраецца: мясцовыя органы ўлады любымі шляхамі спрабуюць прысмактацца да дзяржаўнага вымя. А здавалася б, і карты ў рукі мясцовым Саветам — самастойнасці ім прыбавілі. Вы гаспадары, вы і думайце, дзе знайсці грошы, калі так карціць штосьці пабудаваць.**

**Мы жывём не па сродках ужо зараз. Калі хто гэтага не разумее, то трэба рабіць вывады аб службовай адпаведнасці. Вучыць і ўгаворваць ужо позна. Трэба ратавацца.**

# М. ГАРБАЧОЎ: „Маральная перамога засталася за мной"

(Працяг. Пачатак у № 177).

У акружэнні Прэзідэнта Расіі даўно хадзіла канцэпцыя—«Саюз без цэнтра». Я ж лічыў гэта памылкай, і перш за ўсё з пункту погляду інтарэсаў Расіі, не гаворачы ўжо пра іншыя рэспублікі. Без саюзнага цэнтра Расіі адводзілася б зусім іншая роля.

Цэнтр аб'ектыўна ў «мяккім Саюзе» быў неабходны. Ён неабходны і Расіі, каб яна магла ажыццяўляць сваю ролю. Ён неабходны рэспублікам як цэнтр, дзе падтрымліваецца парытэт, дзе можна весці абмеркаванні, узгадненні і г.д.

У першых чыслах снежня мне на стол паклалі вынікі самага апошняга апытання грамадскай думкі. Аказалася, што колькасць людзей, што выступаюць за Саюз, стала яшчэ большай, чым месяц назад.

**АПЕЛЯЦЫЯ ДА ЗАКОННАСЦІ.** 3 снежня я накіраваў зварот да парламентарыяў краіны. У ім сумарна выкладзена мая канцэпцыя новай дзяржаўнасці краіны.

Аднак абмеркаванне праекта Саюзнага дагавора ў парламентах было сарвана ў атмасферы проста-такі панічных настрояў, што насаджаліся—у тым ліку прэсай—пасля ўкраінскага рэферэндуму. І канешне, у выніку дэструктыўных дзеянняў кіраўнікоў некаторых рэспублік.

Пасля рэферэндуму на Украіне, нягледзячы на вядомую заяву Б. М. Ельцына ў Нова-Агарове: «Саюзу быць!», расійскае кіраўніцтва вярнулася да сваёй ранейшай канцэпцыі, спасылаючыся на тое, што Расія ніколі не згаджалася на Саюз без Украіны. Але гэта—адгаворка.

Пра сваю размову з Ельцыным да яго ад'езду ў Мінск я падрабязна расказаў вялікай групе журналістаў 12 снежня. З майго боку Прэзідэнту Расіі прыводзіліся старыя і новыя аргументы на карысць Саюза. Як я пераканаўся, Ельцын не схільны быў абмяркоўваць пытанне па сутнасці, ды яму, уласна, не было чаго сказаць. І таму паўтараў, задаючы мне адно і тое ж пытанне: а вось Украіна—вы гарантуеце, што яна будзе ў гэтым Дагаворы? Так, націскаў я на Ельцына, Украіну можна ўцягнуць у дагаворны працэс, і галоўнае тут у тым, каб Расійская Федэрацыя першая абмеркавала і падпісала Дагавор. І тады Украіна будзе шукаць сваё месца. Нікуды яна не падзенецца, калі восем рэспублік падпішуць.

Калі ж я даведаўся, што ў Мінск паехалі Бурбуліс і Шахрай, мне ўсё стала ясна. Бурбуліс у свой час напісаў запіску, яна «гуляла» па сталах у многіх, хоць і пад грыфам «Строга канфідэнцыяльна». У чым сэнс гэтай запіскі? У тым, маўляў, што Расія страціла ўжо палову з таго, што яна выйграла пасля жнівеньскага путчу, хітры Гарбачоў пляце сеткі, рэанімірue стары цэнтр, і яго будуць падтрымліваць рэспублікі. Усё гэта нявыгадна Расіі, і гэта трэба спыніць. План Яўлінскага—гэта, маўляў, моцны цэнтр і г.д. Расійскі план у іншым: незалежныя рэспублікі і дзяржавы і нейкае ўтварэнне для «шлюбаразводных» працэсаў. Не для таго, каб супрацоўнічаць, а для таго, каб незалежнасцьператварылася ў аддзяленне. Словам, тайнае станавілася яўным—дасягнутыя дамоўленасці проста адкідваліся.

Фота Мікалая АМЕЛЬЧАНКІ.

Расійскае кіраўніцтва абцяжарваў які б там ні было цэнтр. Яно дзейнічала па прынцыпу: цяпер ці ніколі. Вось дзе карані таго, што адбылося ў Мінску, у Белавежскай пушчы. І гэта самая буйная памылка Прэзідэнта Ельцына.

На працягу тыдня перад мінскай сустрэчай мы амаль штодзённа мелі зносіны з Ельцыным: ці гаварылі па тэлефоне, ці сустракаліся ў мяне. Гаварылі пра многае, але галоўным заставалася пытанне аб захаванні Саюза. На маё пытанне, чаму раптам Вярхоўны Савет РСФСР адклаў абмеркаванне праекта Дагавора аб Саюзе Суверэнных Дзяржаў, ён адказаў разважаннямі наконт таго, што яго не падтрымаюць дэпутаты. Я ж спасылаўся на тое, што яго і мае эксперты разам працуюць у камісіях Вярхоўнага Савета ў абстаноўцы вялікай згоды. І адкуль узята, быццам дэпутаты супраць?

Ельцын пачаў гаварыць, што цяпер першачарговая задача—гэта абмеркаванне дакументаў, звязаных з рэформамі. І зноў настойліва стаўлю перада мной тое ж пытанне: ці падпіша Дагавор Украіна? Саюз без Украіны немагчымы. Я нязменна падкрэсліваў, што таксама не ўяўляю Саюза без Украіны. А на пытанне Ельцына, што ж у гэтым выпадку рабіць, адказаў: зрабіць усё, каб Расійская Федэрацыя першай адобрыла Дагавор на Вярхоўным Савеце.

Я ўжо разумеў, што Прэзідэнт Расіі хітрує, цягне час: значыцца, у яго ёсць іншы план. Таму я перад самай сустрэчай у Мінску прама спытаў у яго: з чым ён едзе? Мой падыход: ёсць праект Дагавора, Украіна можа далучыцца да ўсіх яго артыкулаў ці да часткі з іх. Ельцын, аргументуючы затрымку з разглядам Дагавора, сказаў, што можа паўстаць пытанне аб Саюзе славянскіх рэспублік. Я заявіў, што, на мой погляд, гэта непрымальна. І размову мы павінны працягваць у Маскве на сустрэчы прэзідэнтаў з удзелам кіраўнікоў Украіны.

Тады я падумаў, што сепаратысцкая пазіцыя кіраўніцтва Украіны—гэта «падарунак» для Ельцына: у Расіі не падтрымаюць прэзідэнта, які выступае супраць Саюза. Незадаволенасць расіян цэнтрам зусім не азначае адмаўлення ад Саюза. Асобная ж пазіцыя кіраўніцтва Украіны—выратавальны круг для тых у Расійскай Федэрацыі, хто супраць захавання Саюза.

Дык вось, у Мінску, у Брэсце адбылася сустрэча трох прэзідэнтаў—Расіі, Украіны, Беларусі. І прыняты былі рашэнні—насуперак таму, аб чым мы дамаўляліся на Дзяржсавеце СССР.

Якімі былі мае адносіны да мінскага пагаднення? Якую пазіцыю я заняў? Свае афіцыяльныя адносіны я выказаў у Заяве Прэзідэнта СССР.

## АД МІНСКА ДА АЛМА-АТЫ

Такім чынам, мая пазіцыя была такой: палітыкі павінны мець справу з рэальнасцю, лічыцца з ёю. І вось узнікла гэтая рэальнасць, аб'яўлена аб стварэнні Садружнасці Незалежных Дзяржаў. Праўда, з самага пачатку гэтага працэсу здарылася так, што ўся краіна і яе народы атрымалі нечаканы сюрпрыз: рашэнне аб стварэнні Садружнасці было прынята за спінай Прэзідэнта СССР, прэзідэнтаў іншых суверэнных дзяржаў, за спінай уласных Вярхоўных Саветаў. Краіна адразу ж аказалася ў складанейшым становішчы.

Мне ў нядзелю пазваніў Шушкевіч і кажа: мы тут выйшлі на пагадненне, і я хачу Вам яго зачытаць. Якое пагадненне? — пытаюся я. Ды вось... ведаеце, гэта пагадненне ўжо падтрымліваюць... мы тут гаварылі з Бушам. Я яму кажу: Вы размаўляеце з Прэзідэнтам Злучаных Штатаў Амерыкі, а Прэзідэнт краіны нічога не ведае. Гэта ганьба... Мяне гэты факт здзівіў: Шушкевіч ставіць мяне ў вядомасць, а Барыс Мікалаевіч перагаворваецца з Бушам. Папрасіў запрасіць да тэлефона Ельцына. Размова была нервовай. Я настойваў на сустрэчы Прэзідэнта СССР і кіраўнікоў чатырох рэспублік (Ельцын, Краўчук, Шушкевіч, Назарбаеў). Але «пушчысты» ўжо змовіліся, упаўнаважыўшы на сустрэчу са мной Ельцына.

Увогуле, тое, што адбылося ў тыя дні, лічу ненармальным. Аднак пераступіў і праз гэта. Ёсць рэальнасці, з якімі я павінен быў лічыцца. Важна, каб працэс ішоў, не губляючы палітычнага характару.

Калі, вярнуўшыся з Мінска, Б. М. Ельцын прыйшоў да мяне, я сказаў яму: вы сустрэліся ў лесе і «закрылі» Савецкі Саюз. У грамадстве нават узнікла меркаванне, што размова ідзе аб свайго роду палітычным пераваароце, здзейсненым за спінай Вярхоўных Саветаў рэспублік. Прэзідэнт ЗША даведваецца аб усім раней, чым Прэзідэнт СССР.

Я застаюся прыхільнікам маёй пазіцыі, але буду паважаць выбар, які зробяць людзі. Калі мы за дэмакратыю і рэформы, то павінны дзейнічаць па дэмакратычных правілах. Вы ж не з вялікай дарогі!

Але, паўтараю, узнік рэальны працэс. І калі рэспублікі занялі пазіцыю, то я павінен прыняць гэта як рэальнасць і садзейнічаць працэсу. Такім быў мой вывад для самога сябе. Але трэба дабівацца, каб ён ішоў у законных рамках.

Акцыя ў Мінску паставіла азіяцкія рэспублікі перад фактам. І ўвогуле была зняважальнай для іх суверэнітэту і нацыянальнай годнасці. Што датычыць Украіны, дакладней, яе палітыкаў, справа ясная: такія паводзіны ўпісваліся ў пастаўленую мэту — развaліць Саюз. Азіяцкія рэспублікі ад Украіны далёка, і яна быццам не вельмі зацікаўлена ў цесным супрацоўніцтве з імі. Украінскіх палітыкаў, вядома, цікавіць Расія, дакладней, яе рэсурсы. Таму яны вымушаны рабіць выгляд, што яны за Садружнасць, — быццам бы каб дагадзіць Расіі, якая арганічна прывязана да азіяцкіх рэгіёнаў былога Саюза. Таму Краўчук і паехаў у Алма-Ату. Але чаму расійскае кіраўніцтва не хацела бачыць відавочныя задумы ўкраінскіх палітыкаў?

Эфект першапачатковага адштурхоўвання, няроўных паводзін, намёк на «другараднасць» азіяцкіх дзяржаў у вызначэнні характару Садружнасці не пройдуць дарэмна. Была дапушчана вялікая, можа нават гістарычнага значэння памылка. Бо не ўсе мы ведаем пра змест сустрэчы ў Ашхабадзе. Толькі сёння, па тым, як развіваюцца падзеі ў СНД, як дзейнічаюць сярэднеазіяцкія рэспублікі, відаць, што тады ў Ашхабадзе адбылася дагаворанасць, якая цяпер рэалізуецца.

Аднак кіраўнікі і парламент Казахстана і дзяржаў Сярэдняй Азіі праявілі здаровы розум, палітычны рэалізм, занялі, я сказаў бы, больш цывілізаваную пазіцыю, чым іх еўрапейскія калегі.

Ашхабадская, а затым алма-ацінская сустрэчы некалькі збалансавалі грубы перакос, дапушчаны ў Мінску. Садружнасць узамен Савецкага Саюза атрымала большую легітымнасць. Аднак логіку дэзінтэграцыі прынятыя там дакументы не паламалі. Многія істотныя для жыццяздольнасці Садружнасці пытанні пакінуты ў выглядзе дэкларацыі аб намерах, ды і то яны па-рознаму тлумачацца. Паводзіны Украіны і іншыя падзеі — таму сведчанне.

На сустрэчы з прэсай 12 снежня мне, у прыватнасці, задалі і такое пытанне: ці не прымешваецца да маёй ацэнкі зробленага ў Мінску і Белавежскай пушчы горыч паражэння?

Не! Я пра гэта сказаў і Ельцыну: мы з ім заўсёды гаварылі шчыра.

Я не падзяляю пазіцыю стваральнікаў СНД, але абмяркоўваю з імі ўсе пытанні, якія іх цікавяць. Пасля Мінска сустракаўся з Ельцыным, Назарбаевым, Муталібавым, Набіевым, гутарыў з Краўчуком, Шушкевічам, Акаевым.

Ведаеце, нарэшце, кожны ў палітыцы робіць выбар.

У свой час я быў ініцыятарам рэферэндуму, першага ў гісторыі нашай Айчыны. Народ прагаласаваў тады за Саюз. Калі мы выйшлі на Саюз Суверэнных Дзяржаў — як канфедэратыўную дзяржаву, мы ўжо тады адступілі ад таго, што мелася на ўвазе пад абноўленым Саюзам, за што галасавалі на рэферэндуме. Але ўсё ж мы маглі гаварыць аб адзінай краіне, адзінай Айчыне.

І, па праўдзе кажучы, патрэбна было і новае ўтварэнне — Саюз Незалежных Дзяржаў — прадставіць на суд народа. Няхай народ вырашыць — згодны падзяліць краіну, ці не.

Менавіта адказнасць за тое, што адбываецца, дыктуе мне пазіцыю, якую я займаю.

(Працяг будзе).

# Фільмы тыдня

- **«ДУРНІЦА»**
- **«СЭКСКАЗКА»**
- **«МУЖЧЫНСКІЯ СПРАВЫ»**
- **«ГІСТОРЫЯ АДНОЙ СУСТРЭЧЫ»**

Новая каляровая мастацкая кінастужка «ДУРНІЦА» створана кінематаграфістамі эксперыментальнага творчага аб'яднання забаўляльнага фільма. У аснову яе пакладзена аднайменная п'еса Марселя Ашара. Паставіў карціну рэжысёр Аляксей Кораннеў па свайму сцэнарыю.

...Мары Лантане, пакаёўка ў доме банкіра Барэвера, падазраецца ў забойстве. Доказы, на першы погляд, неабвержныя — яе знайшлі ў непрытомным стане з рэвальверам у руцэ ля трупа яе палюбоўніка, шафёра Мігеля. Мары, хутчэй за ўсё, чакаюць суд і суровы прыгавор...

Напэўна, так бы і здарылася, каб не следчы Каміль Севінье. Ён нядаўна прыехаў у гэты правінцыяльны гарадок, спадзеючыся дасягнуць тут становішча ў грамадстве, і ўмацаваць матэрыяльны дабрабыт. Прафесіянал экстра-класа і чалавек не менш высокіх маральных прынцыпаў, ён зразумеў, што ключ да разгадкі тайны злачынства трэба шукаць у неардынарным характары Мары, у якім непасрэднасць мяжуе з наіўнасцю, а адкрытасць — з гранічнай шчырасцю...

***

...Гэта здарылася ў перадкалядную ноч. Малады чалавек, сціплы, сарамлівы, нават непрыкметны, выпадкова трапляе на вочы нячыстай сіле — кідкай, экстравагантнай даме, стомленай ад аднастайнасці неўміручасці. Д'ябал у жаночым аблічы адразу вылучыў Макса з натоўпу за яго багатае ўяўленне, яркую фантазію і незвычайныя сексуальныя жаданні. Для выканання іх Сатана прыдумвае гульню ў «цотнянцот»: да поўначы Макс можа пажадаць любую жанчыну, але пры адной умове — іх павінна быць няцотная колькасць... І юнак уступае ў азартную гульню з князем цемры... А пра тое, як разгортваюцца падзеі далей, гледачы даведаюцца, паглядзеўшы каляровую мастацкую кінакарціну «СЭКСКАЗКА», створаную кінематаграфістамі гасразліковага творча-вытворчага аб'яднання «Аркадзія» і творча-вытворчага аб'яднання «Вандроўнік» (аўтар сцэнарыя — Аляксей Рудакоў, рэжысёр — Алена Нікалаева). Гэта экранізацыя вядомага апавядання класіка рускай літаратуры Уладзіміра Набокава «Казка».

У карціне некалькі нечакана і з новага боку выступілі ў творчым дуэце вядомыя акцёры Сяргей Жыгуноў і Людміла Гурчанка, якія і на гэты раз прадэманстравалі высокі прафесіяналізм і бездакорнае валоданне ролямі.

***

З цікавасцю глядзіцца таксама каляровая польская мастацкая кінастужка «МУЖЧЫНСКІЯ СПРАВЫ». Аўтары сцэнарыя — Ян Кідава-Блоньскі, Яцак Кандрацкі, рэжысёр — Ян Кідава-Блоньскі.

У фільме гаворка ідзе пра падзеі 1918 года ў акупіраванай немцамі Польшчы.

Кінаапавяданне вядзе малодшая з роду Туроўскіх — Гундзі, дзіўнаватая дзяўчынка-падлетак. Ужо цяпер моцна, па-гаспадарску стаіць яна на зямлі, нягледзячы на свой узрост. У доме Туроўскіх жыве малады дэзерцір Макс, якога дзед Гундзі выратаваў ад нямецкай паліцыі. Ён згуртоўвае кампанію хлопцаў, у якую ўваходзіць і брат дзяўчынкі, і заклікае іх на барацьбу з немцамі. Барацьба гэта, якая нагадвае партызанскія гульні нашых «няўлоўных мсціўцаў», у рэшце рэшт уліваецца ў магутны паток антынямецкага паўстання і набывае сапраўдны драматызм.

***

Алжырскімі кінематаграфістамі знята каляровая мастацкая кінастужка «ГІСТОРЫЯ АДНОЙ СУСТРЭЧЫ». Аўтар сцэнарыя і рэжысёр — Брахім Тсакі.

Гэта гісторыя кароткай дружбы двух глуханямых падлеткаў — дачкі амерыканскага багацея і сына беднага алжырскага гандляра. Нягледзячы на рознае сацыяльнае становішча, гэтыя дзеці надзіва падобныя і сваім сіроцтвам (у іх няма маці), і сваімі рамантычнымі адносінамі да свету, і цягай да разумення і любові, якіх так ім не хапае.

НА ЗДЫМКУ: кадр з фільма «ДУРНІЦА».

## КРЫЖАВАНКА

Перакладзіце на беларускую мову наступныя словы.

**Па гарызанталях:** 1. Лютик. 5. Рубец, шрам. 6. Наст. 8. Родник. 9. Стеклянная банка. 11. Строчка. 13. Подзатылок. 16. Княжество. 17. Рассуждение. 18. Потасовка. 19. Василек. 21. Селитра. 23. Матица. 26. Уголок. 27. Дерево. 28. Несогласие. 30. Озерко. 31. Творец. 32. Сострадание.

**Па вертыкалях:** 1. Краешек. 2. Хлеба. 3. Кожура. 4. Чурка. 5. Пион. 7. Одеяло. 9. Март. 10. Сережка (дерева). 11. Разбирательство. 12. Огниво. 13. Душегрейка. 14. Рельс. 15. Красота. 20. Летунья. 22. Щепка. 24. Разговор. 25. Множество. 28. Очерк. 29. Охрана.

**Склаў Ягор ЯКУШ.**
г. Мінск.

АДКАЗЫ НА КРЫЖАВАНКУ, ЗМЕШЧАНУЮ 29 ЖНІЎНЯ

## СУБОТНІМ ВЕЧАРАМ

### ПЯЦІВУГОЛЬНІК З КВАДРАТА

З маленькіх квадрацікаў, прамавугольнікаў, трохвугольнікаў, якія ўтвараюць вялікі квадрат, паспрабуйце скласці вось такі пяцівугольнік, што на чарцяжы.

### ВЫНІКІ ТУРНІРА

Пасля заканчэння футбольнага турніра каманда «Старт», якая заняла першае месца, набрала 5 ачкоў, яна забіла ў вароты сапернікаў 7 мячоў і не прапусціла ў свае ніводнага.

На другім месцы каманда «Метэор» з 4 ачкамі. Яна забіла 3 галы і прапусціла ў свае вароты 4. На трэцім месцы — каманда «Прамень» з 2 ачкамі і суадносінамі мячоў 2:6. На апошнім месцы каманда «Вымпел», якая мела ўсяго толькі 1 ачко, забіла толькі 1 мяч і прапусціла 3 мячы.

Усе каманды згулялі паміж сабой па аднаму матчу.

Вызначце вынікі ўсіх сустрэч паміж гэтымі чатырма камандамі, улічваючы традыцыйную колькасць ачкоў: за перамогу — 2, за нічыю — 1, за паражэнне — 0.

### АДКАЗЫ І РАШЭННІ

КРЫПТАГРАМА (22 жніўня). «Дрэва пачынаецца з каранёў, а чалавек — з Радзімы». Такі адказ на крыптаграму. Першым правільны адказ даслаў Валерый Сайко з Ашмян. Ключавыя словы ў гэтай крыптаграме — «мёд», «цэнз», «Чэрыкаў», «век», «ліпа».

### ЛІКІ НА ЦЫФЕРБЛАЦЕ

Паглядзіце на звычайны гадзіннік. Паспрабуйце раздзяліць лікі на цыферблаце адной прамой лініяй такім чынам, каб сумы лікаў у абедзвюх групах былі аднолькавымі. Гэтую задачу даслала Наталля Шлык са Слоніма.

## Віншаванне

*САРДЭЧНА ВІНШУЮ КОХАН АЛУ ІОСІФАЎНУ З ВЁСКІ КОРАНЬ З ДНЁМ НАРАДЖЭННЯ. ЖАДАЮ МОЦНАГА ЗДАРОЎЯ. ШЧАСЦЯ.*

*З павагай Вера Мікалаеўна.*

# Усходні гараскоп на наступны тыдзень

## ХОЧАЦЕ — ВЕРЦЕ, ХОЧАЦЕ — ПРАВЕРЦЕ

З Дэлі перадае кар. ІТАР—ТАСС Сяргей БУЛАНЦАЎ.

Астролаг прапануе Казярогу тры дні прысвяціць зусім пэўным заняткам: 7 і 12 верасня рашаць фінансавыя галаваломкі і падпісваць адпаведныя дакументы, абавязкова правесці час з любімым чалавекам. Памятайце, што ў іншыя дні над вамі вісіць пагроза сваркі. Не падладжвайцеся пад чужыя планы, бо ваша добразычлівая ўступлівасць будзе ўспрынята як слабасць.

Актыўнаму і прадпрымальнаму Вадалею планеты абяцаюць усямерную падтрымку. Студэнты возьмуць паспяховы старт, калі, вядома, імі не залатаюць бульбяную ці іншую сельскагаспадарчую брэш. Хтосьці з вас праявіць цікавасць да астралогіі, нумералогіі ці хірамантыі і набудзе вопытнага настаўніка. Сямейнае жыццё праходзіць добра, а вось адзінокія пагружаюцца ў бездань непрыкаянасці.

Насуперак распаўсюджаным забабонам панядзелак будзе для Рыб удвая спрыяльным днём — вы не толькі горача і аддана любімыя, але і атрымаеце грошы ці, па меншай меры, паведамленне аб тым, што яны на падыходзе. Планеты дораць вам радасці сямейнай гармоніі. Нядаўнія закаханыя адкрываюць адзін у адным усё новыя вартасці. Асобам старэйшага пакалення пры болях у жываце не трэба адкладваць візіт да ўрача.

Удвая ўдачная дата паслана і Авену — 12 верасня завяжыце карысныя знаёмствы і адчуеце радасці быцця. У іншыя дні чакае цяжкая руцінная работа. Няхай яна не перашкодзіць убачыць новыя спрыяльныя магчымасці. Патрон, змучаны сутычкамі з нядбайнымі падначаленымі, залічыць у штат вельмі перспектыўнага супрацоўніка. Да вас праяўляе цікавасць асоба процілеглага полу.

Цяльцом авалодвае творчае нецярпенне — на вытворчым гарызонце з'яўляецца новае шматабяцальнае прадпрыемства. Яно патрабуе ўнясення карэктываў у працоўную стратэгію і нудных перагавораў з урадавымі чыноўнікамі. Вы павінны праявіць максімум такту і дыпламатыі. Абавязкова вярніце ўсе даўгі і аплаціце вэксалі. Занятасць не перашкодзіць весела правесці пару вечароў.

У нябеснай кнізе астролага ў графе Блізняты двойчы адзначана 7 верасня. Па ўсёй верагоднасці, у гэты дзень у вашым жыцці адбудзецца вельмі цікавы паварот. 8 і 12 таксама будуць напоўнены прыемнымі падзеямі. Перавод на больш нервовую работу пасля непрацяглай «прыцiркі» да новых абставін наблізіць да трыумфу. Парад планет спрыяе каханню і рамантычным захапленням.

Вецер удачы пакуль не спяшаецца разагнаць цёмныя хмары над Ракам. Дужы пол сварыцца з калегамі на шкоду сабе ж. Слабы пол блізкі да адчаю, бо справіцца з прорвай спраў на рабоце і дома немагчыма. Адно прыходзіцца рабіць ва ўрон другому. 7, 10 і 11 верасня рызыкуеце з гарачкі здзейсніць учынак, аб якім прыйдзецца доўгі час шкадаваць. Мацуйцеся, цяжкі перыяд хутка міне.

Леў працягвае небеспаспяховае змаганне з цяжкасцямі. Пастарайцеся не выбівацца з рабочага графіка, хіба што ў бок апярэджання. Поўнае скрытых пастак асабістае жыццё можа вылучыцца на першы план. Дома не выключаны непрыемныя высвятленні адносін. 7, 8 і 12 верасня планеты дапамогуць аднавіць мір і згоду. На службе прываблівая персона іншага полу падштурхоўвае вас да флірту. Астролаг раіць падавіць спакусу.

Дзева на гэтым тыдні—любіміца свяціл. 7 і 12 верасня — двойчы ўдачныя дні. Поспех у бізнесе ці на рабоце будзе суправаджацца ўзлётам кахання, адухоўленага паэзіяй. Зрэшты, не ўзлятайце вельмі высока, бо жар эмоцый падсмаліць крылы нечаканага шчасця.

У Шаляў дзве важныя даты. Тыдзень пачнецца 7 верасня на вельмі высокай ноце — гэта ваш лепшы дзень. Астролагу бачыцца нечаканы прыток грошай і шматабяцальныя дзелавыя прапановы. Хатняя гаспадыня, якой усё цяжэй зводзіць канцы з канцамі, уладкуецца на добра аплачваемую часовую работу. 13 верасня вам кінуць ультыматум: прыйдзецца ці капітуляваць ці разарваць адносіны.

Скарпіёну астролаг адназначна прадказвае ўдачу ў справах. Перамены да лепшага ці добрыя паведамленні прыйдуць 6 і 12 верасня. Паспяхова прадоўжаць кар'еру нават тыя, што змірыўся з непрыемнай перспектывай адправіцца на пенсію. Ваша «другая палавіна» злёгку недамагае? Не спяшайцеся ў аптэку за лекамі. Цяпло вашага сэрца здольна перамагчы хваробу любімага чалавека.

Чакаць зручнага моманту для ўсплёску актыўнасці прадпісана Стральцу. Планеты адводзяць прыхільны погляд ад бізнесмена і дораць сімпатыі добрасумленнаму чыноўніку. 7 ці 8 верасня вас могуць назначыць «выконваючым абавязкі» Скарыстайце ўласцівыя вашаму знаку Задыяка байцоўскія якасці і замацуйцеся на новай пасадзе. Прафесіянальныя палітыкі і юрысты купаюцца ў промнях славы. Туман, падпушчаны нейкай трэцяй асобай у вашы сардэчныя адносіны, паступова рассейваецца.

## НАДВОР'Е

### 5 верасня

Сёння ўдзень па рэспубліцы чакаецца халоднае з дажджамі надвор'е. Тэмпература паветра ў Гродна і Мінску — 14—16, Віцебску — 15—17, Брэсце — 16—18, Магілёве — 19—21, Гомелі — 21—23 градусы цяпла. У наступныя двое сутак захаваецца халаднаватае з дажджамі надвор'е.

**Л. САНКЕВІЧ,**
**інжынер-сіноптык.**

## ТАБАР ПАДАЕЦЦА Ў БІЗНЕС

ВІЦЕБСК. Каля гарадскога ювелірнага магазіна «Лазурыт» ужо даўно створана альтэрнатыўная служба скупкі золата і каштоўнасцей. Гэта — натоўп цыганоў, якія, толькі паклаўшы пярсцёнак ці ланцужок сабе на зуб, адразу вызначаюць пробу і назначаюць цану. Дарэчы, і для пакупнікоў, і для жадаючых збыць тавар тут больш выгадна, таму што здаць нешта з каштоўных металаў у магазін — справа мутарная, а ў цыганскі табар — хутка і без праблем. Ды і аплата адразу ж.

## УВАГА: ВЫШУК!

Мядзельскі РАУС вышуквае ўцёкшага з-пад нагляду спецкамендатуры Мядзельскага РАУС умоўна асуджанага Мядзведскага Міхаіла Міхайлавіча, 1969 года нараджэння. Ён ураджэнец вёскі Навінкі Салігорскага раёна Мінскай вобласці. Прыкметы: рост 171 см, валасы русыя, сярэдняга целаскладу, на безыменым пальцы правай рукі татуіроўка «пярсцёнак», на мезенцы — «крыж», на фалангах пальцаў левай рукі — лічбы «1969».

Вышукваемы схільны да ўчынення злачынства.

Калі каму-небудзь вядома аб месцазнаходжанні вышукваемага, просьба паведаміць у Мядзельскі РАУС па тэлефонах 55-6-87, 55-0-87, ці ў Мінску па тэлефонах 54-20-83, 54-32-14.

## ТЭЛЕБАЧАННЕ

### 5 верасня

**Беларускае тэлебачанне**

**12.15.** Творчае аб'яднанне МЭТА. «Згадаем тых, каго шануе памяць...» Язэп Лёсік.
**12.35.** Фільм—дзецям. «Прынц і жабрак».
**13.50.** «У згодзе і спрэчках з Мельпаменай». Дырыжор ДАВТа Беларусі А. Анісімаў.
**14.35.** Творчае аб'яднанне МЭТА.
**15.50.** У школу па веды. Да пачатку новага навучальнага года.
**16.35.** «Адраджэнне». Дак. фільмы кінастудыі «Беларусьфільм». «Дзядзька Уласаў».
**16.55.** Міжнацыянальная хакейная ліга. «Дынама» (Мінск) — «Рыгас Старс» (Рыга).
**19.20.** «На цёплай зямлі». Кінанарыс.
**19.30.** Сустрэча з Пастаянным прадстаўніком Беларусі пры ААН Г. М. Бураўкіным.
**20.40.** Калыханка.
**21.00.** Панарама.
**21.35.** «Сінема» прадстаўляе: «Выбраныя». Маст. фільм. 1-я серыя.
**22.45.** НІКа.

**Канал «Астанкіна»**

**12.05.** «Карэя: краіна, людзі, спорт». Перадача 2-я.
**12.35.** Дак. фільм.
**14.00.** Навіны.
**14.25.** «Казка пра адважнага каваля». Маст. фільм (Чэха-Славакія).
**15.45.** Н. Паганіні. «Венецыянскі карнавал». Выконвае І. Бачкова (скрыпка).
**15.55.** Чырвоны квадрат.
**16.35.** ТБ-«Нява». Тыдзень І Сусветнага кірмашу «Расійскі фермер». Выпуск 5-ы.
**16.55.** «Яноты». Шматсерыйны мультфільм (Канада).
**17.20.** Шчаслівы выпадак.
**18.20.** «Да першай крыві». Маст. фільм.
**19.45.** Добрай ночы, малышы!
**20.00.** Навіны.
**20.40.** «Адзін дзень ля мора». Спявае С. Ратару.
**21.55.** Да і пасля поўначы. У перапынку (23.00) — Навіны.
**23.35.** «Блакітная лэдзі». Маст. фільм (Германія).

**Канал «Расія»**

**12.00.** Пілігрым.
**13.00.** Весткі.
**13.20.** «Папялушка». Маст. фільм.
**14.40.** Адкрыты чэмпіянат ЗША па тэнісу.
**15.35.** «Я стаміўся ад XX стагоддзя...» Літаратурна-музычная кампазіцыя.
**16.05.** «Жар-птушка». Мультфільм (Японія). 1-я серыя.
**17.05.** Кантрасты.
**17.45.** Парламенцкі веснік.
**18.00.** Конкурс бальных танцаў.
**18.45.** Свята кожны дзень.
**19.00.** Весткі.
**19.20.** Залатая шпора.
**19.55.** Група «І.М.Ф» (Вялікабрытанія), на фестывалі «Рок-самер-92».
**20.40.** «Карнавал». Маст. фільм. 1-я серыя.
**22.00.** Весткі.
**22.20.** «Карнавал». 2-я серыя.

### 6 верасня

**Беларускае тэлебачанне**

**8.30.** Раніца рэспублікі.
**8.45.** «Прыгоды Шэрлака Холмса і доктара Ватсана». Маст. фільм «Сабака Баскервіляў». 2-я серыя.
**10.00.** Урокі здароўя.
**10.30.** «Сівой даўніны покліч». Расказваюць тэлежурналісты Санкт-Пецярбурга.
**10.50.** Конны спорт.
**11.50.** Тэлебом. Музычная конкурсная праграма з удзелам юных талентаў.
**12.45.** Н. Сайман. «Калі мамы няма дома». Спектакль.
**15.05.** На музычных паралелях. Іграе Канстанцін Шароў (арган).
**15.25.** «Медная гары гаспадыня». Мультфільм.
**15.45.** Хакей на траве. Чэмпіянат Беларусі. ХК «Мінск» — «Будаўнік» (Брэст). 2-гі тайм.
**16.25.** Кінаэкран-92. Верасень.
**17.35.** Бізнес-клуб «Партнёр». Венгерскія сустрэчы.
**18.30.** «Згадка згадку чуе». Творы кампазітара І. Мацієўскага на вершы М. Багдановіча.
**19.00.** «Лясная сімфонія». Партызанскі матыў у сугуччы жыцця.
**20.00.** Панарама.
**20.25.** Мультфільмы для дарослых.
**20.40.** Калыханка.
**21.00.** «Каскад». Кантакт. Інфармацыя. Рэклама.
**21.10.** «Сінема» прадстаўляе: «Выбраныя». Маст. фільм. 2-я серыя.
**22.20.** Футбол-92. Чэмпіянат Беларусі. «Дынама» (Брэст)—«Дынама» (Мінск).

**Канал «Астанкіна»**

**6.00.** Гадзіна сілы духу.
**7.00.** Тыраж «Спортлато».
**7.15.** Рытмічная гімнастыка.
**7.45.** Канцэрт Дзяржаўнага ансамбля танца Калмыкіі «Айраты».
**8.15.** Раным-рана.
**8.45.** Магчыма ўсё.
**9.15.** Мультфільмы.
**9.35.** Ранішняя зорка.
**10.25.** Пад знакам «пі».
**11.15.** Новае пакаленне выбірае.
**12.05.** «Мы развітваемся, каб сустрэцца зноў...» Песні і рамансы Я. Фрэнкеля і К. Ваншэнкіна.
**12.55.** «Метамарфозы жывапісу». Навукова-папулярны фільм.
**14.00.** Навіны (з сурдаперакладам).
**14.20.** Дыялог у прамым эфіры.
**15.00.** Клуб падарожнікаў.
**15.45.** ТБ-«Нява». Тыдзень І Сусветнага кірмашу «Расійскі фермер». Выпуск 6-ы.
**16.05.** Тэлелоцыя.
**16.15.** Панарама.
**16.55.** Уолт Дысней прадстаўляе...
**17.45.** Навіны.
**18.00.** «Цудоўная сямёрка».
**19.00.** «Словы і музыка». Маст. фільм. (ЗША).
**21.00.** Вынікі.
**21.45.** Спартыўны ўік-энд.
**22.00.** Вячэрняе музычнае кафэ «Арс».

**Канал «Расія»**

**7.00.** Весткі.
**7.20.** Дак. фільм.
**8.15.** «Дзякуй, Божа. Я свабодны».
**8.45.** Хочаце, верце...
**9.15.** Праграма «Ключ». «Навальніца 1812 года». Фільм 5-ы.
**9.45.** «Прыгода ў каралеўстве». Мультфільм. 2-я серыя.
**10.15.** Аты-баты...
**10.45.** Нядзеля ў правінцыі. «Музей-сядзіба Паленава». Частка 2-я.
**11.30.** Адкрыты чэмпіянат ЗША па тэнісу.
**12.30.** Сялянскае пытанне. «Семсот гадоў і адзін дзень».
**13.00.** Весткі.
**13.20.** Тэлевізійны тэатр Расіі. Ф. Салагуб. «Дробны нячысцік».
**15.15.** «Жар-птушка» Мультфільм (Японія) 2-я серыя.
**16.20.** Гісторыі вялікія сыны.
**16.50.** Непазнаны Сусвет.
**17.35.** Рэтра. «А. Райкін і іншыя...»
**18.00.** Чэмпіянат Расіі па футболу. «Асмарал» — «Лакаматыў» (Масква). 2-гі тайм.
**18.45.** Свята кожны дзень.
**19.00.** Весткі.
**19.20.** Д. Шастаковіч. «Сёмая сімфонія». Выконвае сімфанічны аркестр пад кіраўніцтвам А. Дзмітрыева.
**20.45.** Фарс-мажор.
**21.15.** «Гэй, на лінкоры!» Маст. фільм.
**22.00.** Весткі.
**22.20.** Спартыўная карусель.
**22.30.** «Ад цемры да святла». Супер-шоў тэатра «Трылер» Аляксандра Шкуратава.

ЗАСНАВАЛЬНІКІ:
Вярхоўны Савет Рэспублікі Беларусь,
Савет Міністраў Рэспублікі Беларусь,
калектыў рэдакцыі газеты «Звязда».

Галоўны рэдактар У. НАРКЕВІЧ.
Рэдакцыйная калегія: У. АНДРЫЕВІЧ (намеснік галоўнага рэдактара), І. БАРАНОЎСКІ, У. ГОЙТАН, В. ЖДАНКО, Л. ЛАХМАНЕНКА, М. МІХАЕВІЧ (першы намеснік галоўнага рэдактара), А. МЯСНІКОЎ, Л. РЫЖАНКОВА (намеснік галоўнага рэдактара), А. ЦІХАНОВІЧ, С. ШАЎЦОЎ.

НАШ АДРАС: 220041, гор. Мінск, праспект Ф. Скарыны, 77, рэдакцыя газеты «Звязда».
ТЭЛЕФОНЫ: прыёмнай — 32-51-05, аддзела пісьмаў — 32-04-52, 32-41-92, навін —32-60-13, даведкі па рэкламе і аб'явах — 32-35-91.

Аўтары апублікаваных матэрыялаў нясуць адказнасць за падбор і дакладнасць фактаў. Іх меркаванні не заўсёды супадаюць з меркаваннем рэдакцыі.
Рэдакцыя пакідае за сабой права не ўступаць у перапіску з чытачамі.

Друкарня выдавецтва «Беларускі Дом друку».
Тыраж 81.098. Індэкс 63.850.
Зак. № 179.
Выходзіць 250 разоў на год.
Нумар падпісаны ў 21.00.
М 1 2 3 4 5 6 7 8 9 10 11 12
П 1 2 3 4 5 6 7 8 9 10 11 12